№ 48 (257) 26 лістапада 2001 г.

НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

# ПРЫВАТНЫЯ ТУРМЫ



**Канстытуцыйны суд ня супраць прыватызацыі месцаў зьняволеньня. Ідзе пэнітэнцыярная рэвалюцыя?**

Старонкі 6–7.

ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 6312

## Шаноўныя чытачы-нашаніўцы!

З Новага году "Наша Ніва" будзе выходзіць на 16 старонках штотыдня, а не на 12-ці, як цяпер. Гэта робіцца, каб шырэй і яснэй асьвятляць беларускае жыцьцё. Зьявяцца новыя аўтары, рубрыкі, тэмы. Газэта будзе больш пісаць пра палітыку, гаспадарку і грошы, пра жыцьцё беларусаў замежжа, асабліва новую хвалю эміграцыі, пра навуку, тэхніку, спорт, здароўе.

Газэта будзе выходзіць пятніцамі ўранку, а не панядзелкамі ў абед, як раней. Такі пераход задуманы, каб чытачы за Менскам хутчэй атрымлівалі газэту (пры панядзелкавым выхадзе яна бавілася ў дарозе прынамсі на дзень больш). Пераход на пятнічны друк дазволіць нам друкаваць тэлепраграму. Аднак мы дагэтуль ня пэўныя, ці патрэбная яна ў газэце. У гэты аўторак у 18.30 у Менску ў Купалаўскай бібліятэцы (вул.Харужай, 16) адбудзецца сустрэча рэдакцыі з чытачамі. На ёй будзем раіцца з вамі. Па яе выніках і вырашым — друкаваць тэлепраграму ці не.

Зьменіцца з Новага году і інтэрнэт-сайт газэты. Мы дапрацоўваем яго новы дызайн — сучасны, зручны. На сайце зьявіцца шмат патрэбных сэрвісаў, будуць штодзённыя навіны, фотагалерэя "клясычных здымкаў "НН", там будуць друкавацца артыкулы нашых аўтараў і лісты чытачоў, якія з тых ці іншых прычынаў не трапляюць у "папяровую" газэту. А вось тэксты газэты і пагатоў фатаздымкі будуць выстаўляцца ня ўсе.

З Новага году інтэрнэт-сайт "НН" будзе працаваць па новым адрасе: www.nn.by Замежныя чытачы "НН" з-за перагружанасьці беларускага каналу змогуць знаходзіць яго праз люстэрка www.bielarus.info Гэткі праўобраз "беларускага парталу" ствараецца дзякуючы дапамозе беларусаў Вялікай Брытаніі.

Падпіска на газэту падаражэла. Цяпер яна каштуе 1348 рублёў на месяц. Гэта зьвязана як з інфляцыяй (цэлы мінулы год мы стрымлівалі рост падпісное цаны), так і з беспрэцэдэнтным ростам тарыфаў "Белпошты" за дастаўку газэты: летась з нас бралі 42% ад падпісное цаны, зараз — 98%. Ясна, што такія тарыфы стануць прадметам судовага аспрэчваньня, бо абумоўленыя яны манапольным становішчам "Белпошты" на рынку дастаўкі прэсы. Але пакуль прыходзіцца трываць. У шапіку з Новага году "НН" будзе каштаваць 350 рублёў, таму падпісчыкам газэта будзе абыходзіцца таньней.

Не шкадуйце грошай на газэту сваёй душы. Яна ўсё ж каштуе меней, чым булка чорнага хлеба. Выпускаць жа газэту не прасьцей, чым вырошчваць хлеб. Выходзіць "НН" на *вашы* грошы, не забывайцеся на гэта.

Беларусь зьмяняецца, "Наша Ніва" застаецца. "Наша Ніва" — гэта люстра душы, думак і патрэб Беларусі", — пісалі нашы папярэднікі 90 гадоў таму ў рэкляме падпіскі на 1912 год. Дык падпісвайцеся!

**Рэдакцыя**

## Якой быць "Нашай Ніве" ў 2002-м?

27 лістапада, у аўторак, а 18.30 у Купалаўскай бібліятэцы (Харужай, 16) адбудзецца сустрэча галоўнага рэдактара "НН" Андрэя Дынька з чытачамі. Запрашаем усіх.





МАЙКЛ АМЭНДОЛІЯ

**"Лепей, каб выбары ў саюзны парлямэнт не адбыліся. Аднак калі яны адбудуцца, то дэмакратычныя сілы мусяць браць у іх удзел і адстойваць незалежнасьць краіны". Такі погляд выказалі 24 лістапада на "Менскім форуме" М.Статкевіч і М.Марыніч. Ці мусіць апазыцыя ўдзельнічаць у выбарах у саюзны парлямэнт? Апытаньне "НН" на старонцы 3.**

# Абаронцы Курапатаў просяць цукерак

*Дзяжурства ў Курапатах працягваецца, вахту нясе менская і гомельская моладзь*



ВІКТАР ПАМЕЗНА

За старэйшага ўчора быў 28-гадовы Аляксей, дыякан праваслаўнай царквы. Ягоны штодзённы "абавязак" — нэрваваць будаўнікоў, якія даўно прызналіся, што прасьцей зьмяніць праект, чым спрачацца з Аляксеем. Штонядзелю а 13-й Аляксей правіць у Курапатах службу. Міліцыянты, упершыню пабачыўшы яго ў рызе, зьдзівіліся й запаважалі.

Агрэсіі ў Курапатах паменшала. Апошняя бойка была пару тыдняў таму — моладзь не дазваляла валіць лес. Два дні бульдозэры сталі. Дэлегацыя абаронцаў хадзіла перамаўляцца з будаўнікамі. Паласу лесу шырынёй два мэтры ўдалося адстаяць.

Аляксей кажа: "Сёньня нас тут шасьцёра. Звычайна людзей болей. Але на ноч застаюцца ня ўсе. Няпоўнагадовых адсылаем дахаты. Найбольш актыўныя бэпээсаўцы. Дапамагаюць таксама Малады Фронт, зубры, пара сацыял-дэмакратаў. Прыяжджаюць людзі зь Берасьця, Горадні. Зь Пінску прыяжджала дзяўчына — з арганізацыі "Мэмарыял". Прыяжджаў Шарамет, здымаў фільм "Дзікае паляваньне-2".

Дыякан Аляксей кажа, што патрэбы абаронцаў Курапатаў цяпер звычайныя — ежа, грошы. Учора яны якраз чакалі мікрааўтобус ад кобрынскага Чырвонага крыжу з коўдрамі й цёплымі шкарпэткамі. Але найбольш патрэбная маральная падтрымка. "Каб людзі прыходзілі. Крыжы новыя ўсталёўваць, лес прыбіраць. Зьбіраемся ставіць другі намёт, каб праводзіць службу".

Сацыял-дэмакратка Люда жартуе: "Тут будаўнікі адну елку сьпілавалі, дык мы зь яе зробім каляндную ялінку. Цацкі патрэбныя, каб упрыгожыць яе. Хай людзі прынясуць, хто зможа. А так то цукерак хочацца..."

**Крысьціна Пучынская**

### Малебен за Беларусь

**Учора ў менскім парку Дружбы народаў (плошча Бангалор) пратэстанты адслужылі ўрачысты малебен за Беларусь.** Яго ладзілі цэрквы "Новае жыцьцё", "Царква Ісуса Хрыста", "Слова веры", "Сям'я боская", "Жыцьцё зь лішкам", якія ўваходзяць у Аб'яднаньне грамадаў хрысьціянаў поўнага Эвангельля. У акцыі бралі ўдзел 500 прыхаджанаў, а малебен служылі пастары Вячаслаў Ганчарэнка, Валеры Шайбак, Павал Аносаў.

**Паводле БелаПАНу**

### Шасьціну ворыва засадзім лесам

**Да 2004 г. урад прымусова выведзе з карыстаньня 15% ворыва, на месцы якога пасадзяць лес.** Дазвол па ўласным жаданьні не араць няўдобіцу калгасы атрымалі ўжо сёлета, але скарысталіся гэтай магчымасьцю наважыліся ўсяго 3 гаспадаркі на паўночным усходзе Віцебшчыны.

### Ствараецца Беларуская Сацыял-дэмакратыя

**У наступную нядзелю адбудзецца зьезд беларускіх сацыял-дэмакратаў, апанэнтаў Міколы Статкевіча.** У новую партыю, якую мяркуюць назваць Беларуская Сацыял-дэмакратыя, спадзяюцца сабраць палову сяброў Народнай Грамады.

### Ганчарык у Вільні



**Уладзімер Ганчарык і кіраўнічка ягонага выбарчага штабу Валянціна Палевікова наведалі з кароткім візытам Вільню,** вяртаючыся з Заходняй Эўропы ў Менск. На прэс-канфэрэнцыі Ганчарык выказаўся супраць скасаваньня палітычнае ізаляцыі Беларусі. Былы "адзіны кандыдат" скептычна ставіцца і да прапановы запрашаць на сэсіі Парлямэнцкае Асамблеі Рады Эўропы мяшаную ўладна-апазыцыйную беларускую дэлегацыю.

**Б.Т.**

## Зварот

### да беларускага народу ў Дзень герояў, 27 лістапада 2001 году



Дарагія суродзічы!

Сьвяткуючы ўгодкі слаўнага Слуцкага збройнага чыну, беларусы ва ўсім сьвеце аддаюць гонар случчакам, якія "пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына".

Было іх толькі каля дзесяці тысяч, мелі толькі дзьве тысячы вінтовак і дзесяць кулямётаў. Аднак тры тыдні пасьля пачатку баявых дзеяньняў бальшавікі былі змушаныя ўзмацняць сваё войска азіяцкімі аддзеламі, каб іх перамагчы.

Ёсьць у нас героі і сёньня. І ёсьць іх шмат. У гэты Дзень герояў, аднак, хацелася б аддаць гонар моладзі, якая змагаецца ў Курапатах, каб не дазволіць пакрыць асфальтам косьці ахвяраў сталінізму. Іх зьбіваюць, іх арыштоўваюць, іх штрафуюць, а яны — на варце! Бароняць Бацькаўшчыну і яе адвечныя вартасьці. Яе славу. Яе годнасьць. Яе незалежнасьць.

Гэтыя дзяўчаты і хлопцы — нашыя сёньняшнія случчакі — пакazваюць волю нашага маладога пакаленьня захаваць гістарычную памяць беларускага народу і даказаць сьвету, што Беларусь жыве!

Зьвяртаюся сёньня да ўсіх тых, хто яшчэ іх не падтрымаў. У Курапатах мусілі б вартаваць магілы ахвяраў чужацкага тэрору не дзясяткі ці сотні герояў, а ўвесь беларускі народ! Не дазвольце спраўдзіцца стэрэатыпам пра нашую пасыўнасьць і абыякавасьць да ўсяго беларускага! Яшчэ час выратаваць гонар нашага народу. Ідзіце тысячамі ў Курапаты! Пакажыце сьвету вашую салідарнасьць! Пакажыце, што беларускі народ — вольны, мужны, годны — сапраўды існуе. І што ён заслугоўвае павагі міжнароднай супольнасьці.

Жыве Беларусь!

**Івонка Сурвілла,**
**Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі**
**Атава, Канада, лістапад 2001 г.**

### Яўгену Ціхановічу — 90



**Учора найстарэйшаму беларускаму мастаку Яўгену Ціхановічу споўнілася 90 гадоў. Ён памятае Купалу і Галубка. Яму было 30 у 41-м. Ён — равесьнік нашага адраджэньня. Віншуем і доўгіх гадоў!**

## Апытаньне "НН"

# З намі ці бяз нас?

*Ці сьлед апазыцыі ўдзельнічаць у выбарах у саюзны парлямэнт?*

**"Лепей, каб выбары ў саюзны парлямэнт не адбыліся. Аднак калі яны адбудуцца, то дэмакратычныя сілы мусяць браць у іх удзел і адстойваць незалежнасьць краіны". Такі пункт гледжаньня выказалі 24 лістапада падчас канфэрэнцыі "Беларусь пасьля выбараў: неабходнасьць зьменаў (эканоміка, палітыка, бясьпека, ідэнтычнасьць)" лідэр БСДП "Народная Грамада" Мікола Статкевіч і прэзыдэнт асацыяцыі "Дзелавая ініцыятыва" Міхаіл Марыніч. Канфэрэнцыю гэтую зладзілі беларускія й нямецкія сацыял-дэмакраты.**

**Такім чынам, пранямецкія палітыкі выказалі сваю пазыцыю: саюзны парлямэнт трэба прызнаваць і ў выбарах у яго ўдзельнічаць. Раней пра выбары ў саюзны парлямэнт узгадваў Ганс-Георг Вік, самім успамінам ускосна прызнаючы такі орган, хоць ягонае існаваньне супярэчыла б беларускай канстытуцыі і абмяжоўвала б незалежнасьць Беларусі. Ягоныя словы ў "Нашай Ніве" ад 1 кастрычніка 2001 г. рэзка крытыкаваў Андрэй Саньнікаў, былы віцэ-міністар замежных справаў Беларусі.**

**Пасол ЗША Майкл Козак у сваім выступе на канфэрэнцыі выказаўся супраць кепскіх кампрамісаў з рэжымам. Беларускія ўлады, на ягоную думку, мелі магчымасьць засьведчыць сваю дэмакратычнасьць на выбарах 2000 і 2001 г., дык не зрабілі ж гэтага, а ізныя заявы пра тое, што ЗША імкнуцца ізаляваць Беларусь, накласьці на яе эканамічныя санкцыі, — ня больш чым міты. "Мы пэўныя, што, калі і далей працаваць з усімі слаямі беларускага грамадзтва, яны зробяць слушны выбар", — во гэтак недвухсэнсоўна выказаўся Козак.**

**Ці варта беларускай апазыцыі браць удзел у выбарах у саюзны парлямэнт Беларусі і Расеі, калі б такія адбыліся? З гэтым пытаньнем зьвярнуліся мы да палітыкаў, грамадзкіх і культурных дзеячоў.**

### СЯРГЕЙ ХАРЭЎСКІ

**рэдактар радыё "Балтыйскія хвалі":**

Калі палітыкі не бяруць удзелу ў палітычным жыцьці, дык яны не палітыкі. У парлямэнт гэтак званага СССР уваходзілі ў тым ліку тыя, хто разваліў гэтую імпэрыю зла. Увайшоўшы ў парлямэнт, апазыцыя атрымае доступ да СМІ, атрымае магчымасьць дэкляраваць сваю думку. Гэта, у сваю чаргу, дазволіць беларускаму і расейскаму спажыўцу даведацца пра тое, што ў Беларусі ёсьць людзі, якія жадаюць незалежнасьці сваёй краіне.

### КАРЛЯС ШЭРМАН

**пісьменьнік, былы старшыня ПЭН-цэнтру:**

Такога саюзу не існуе, значыць ня можа існаваць і такога парлямэнту. Гэта пустыя размовы. Утварэньне такога парлямэнту абернецца супраць Беларусі.

### ТАІСА МІШЧАНКА

**лідэрка беларусаў Масквы:**

Такога саюзу не павінна быць, таму не павінна быць і выбараў такога кшталту.

### ВІКТАР ІВАШКЕВІЧ

**галоўны рэдактар газэты "Рабочы":**

Ня варта. Па-першае, гэта супярэчыць ідэалам незалежнасьці Беларусі. Па-другое, гэты парлямэнт нічога ня вырашыць. Грошы на гэты саюз будуць выдаткоўвацца мізэрныя, таму і ў саюзны парлямэнт ісьці немэтазгодна.

### ЯНКА БРЫЛЬ

**пісьменьнік:**

Я ня знаўца ў такіх пытаньнях, таму адказаць не магу. Да таго ж я нядаўна прыехаў у Менск, таму ня вельмі добра арыентуюся ў абставінах.

### СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ

**доктар фізыкі, былы старшыня Вярхоўнага Савету:**

Утварэньне такога парлямэнту не адпавядае ні Канстытуцыі Рэспублікі Беларусі, ні Канстытуцыі Расеі. Калі ж адбудзецца нейкі сход, то пытаньне пра выбары будзе толькі ідэалягічным. Увогуле ж гэта гульня па немаведама якіх правілах.

### ЮРЫ БЕЛЕНЬКІ

**лідэр КХП–БНФ:**

Браць удзел у выбарах такога кшталту — гэта злачынства, якое адпавядае артыкулу Крымінальнага кодэксу аб здрадзе Радзіме. У такіх выбарах ніхто ня мае права браць удзел, бо рана ці позна будзе ўзбуджаная справа, і за злачынствы прыйдзецца адказваць.

### ВАЛЯНЦІН ЖДАНКО

**журналіст:**

Ня варта. Апазыцыя ўвесь час выступае супраць гэтага парлямэнту, таму браць удзел у выбарах было б нелягічна.

### МІКАЛАЙ АКСАМІТ

**былы дэпутат Вярхоўнага Савету, Ваўкавыск:**

Ня варта. Калі браць удзел, саюз будзе аўтаматычна лічыцца сапраўдным. Саюз гэты прызнаваць нельга.

### ГЕНАДЗЬ БЯЛЕВІЧ

**дырэктар СП "Оціка":**

Кожная палітычная партыя прадстаўляе інтарэсы пэўнай групы насельніцтва. Таму вялікай бяды ня будзе, калі ў саюзным парлямэнце будзе прысутнічаць і апазыцыя.

### АНАТОЛЬ ГУЛЯЕЎ

**журналіст, віцэ-прэзыдэнт Беларускай асацыяцыі журналістаў:**

Варта. Каб нешта зьмяніць, трэба дзейнічаць, трэба даносіць думку аб незалежнасьці да як мага большай колькасьці людзей. Калі ж толькі маўчаць, то мы ня будзем усьпрынятыя ні сваім народам, ні расейцамі.

### АЛЯКСЕЙ ГАЎРУЦІКАЎ

**старшыня віцебскай арганізацыі БСДП "Народная грамада":**

Абавязкова трэба браць удзел. Я быў супраць байкоту любога кшталту з самага пачатку. Суверэнітэт неабходна абараняць. Толькі пасьлядоўная барацьба, удзел у выбарах любога ўзроўню можа звонку нешта зьмяніць у гэтай краіне.

### ЛАРЫСА НАСАНОВІЧ

**актывістка АГП з Салігорску:**

Ня варта. Узяўшы ўдзел у гэтых выбарах, апазыцыя тым самым падтрымае намер улады стварыць саюзную дзяржаву.

### ІГАР ТЫШКЕВІЧ

**дырэктар агенцтва рэгіянальнага разьвіцьця "Варута", Баранавічы:**

Ня варта. Гэты парлямэнт ня будзе мець рэальнага ўплыву. Калі ж палітычныя партыі возьмуць удзел у гэтых выбарах, гэта будзе азначаць аўтаматычнае прызнаньне таго, што апанэнты лічаць курс слушным і падтрымліваюць будаўніцтва саюзнай дзяржавы.

### ЛЮДМІЛА СІЛЬНОВА

**паэтка, супрацоўніца Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі:**

Апазыцыі ня варта браць удзел у выбарах у саюзны парлямэнт, бо "саюзная дзяржава" — гэта гульня, і яны ўжо ўголас пра гэта зрабілі заяву. Нашай апазыцыі трэба прыдумаць сваю гульню і гуляць у яе шчыра і доўга на зайздрасьць тым жыхарам плянэты, якія гуляюць у іншыя забаўкі, каб яны пакінулі свае гульні і прыгледзеліся да нашай. Вось Том Соер таксама спачатку фарбаваў плот у якасьці пакараньня.

Я не палітык і не экспэрт, я паэтка. Мяркую, што тыя, хто гуляе ў хованкі ці ў клясікі, ня лезуць у гульні да тых, хто гуляе ў казакі-разбойнікі ці ланцугі каваныя. Кожная гульня патрабуе веданьня правілаў і адданасьці ёй. І тыя, хто прыйшоў у гульню, мусяць ведаць пра яе як мага больш. Толькі ў такім выпадку можна выйграць.

### МЕЧЫСЛАЎ ГРЫБ

**генэрал, былы старшыня Вярхоўнага Савету:**

Я яшчэ ня вызначыўся з гэтым пытаньнем. Калі не прызнаваць саюзу, то ня варта прызнаваць парлямэнт і браць удзел у выбарах. Калі выбары адбудуцца і пройдуць, то трэба глядзець, хто туды патрапіць. Неабходна, каб людзі, якія будуць у парлямэнце, адстойвалі, а не здавалі Беларусь. Іншымі словамі, байкатаваць нельга, неабходна лабіраваць інтарэсы Беларусі ў парлямэнце такога кшталту.

**Апытвала Людміла Гулюк**

## Навіны за тыдзень

### Мільён за паклёп

**Пінскі гарадзкі суд загадаў спагнаць зь недзяржаўнай газэты "Правінцыялка" мільён рублёў на карысьць старшыні Пінскага гарвыканкаму Васіля Шуста.** Перад выбарамі газэта надрукавала артыкул Аляксея Дзікавіцкага "Пінскім чыноўнікам загадалі "зрабіць" выбары і "намаляваць" па 100 даляраў заробку". Шуст зьвярнуўся ў суд. Газэтчыкі не змаглі спраўдзіць пададзеныя зьвесткі. Аляксей Дзікавіцкі ўкрыўся ў Варшаве. З газэты ж зьдзяруць штраф.

### Чыкіна адставілі

**Беларускія камуністы адправілі ў адстаўку свайго лідэра Віктара Чыкіна.** Цяпер кіраваць КПБ будзе Валеры Захарчанка, дэпутат нацыянальнага сходу. Захарчанка цьвёрда стаіць на пазыцыях падтрымкі Лукашэнкі.

### РПЦ хоча пазбавіць Спасюка сану

**70 сьвятароў гарадзенскае япархіі вырашылі прасіць Сынод беларускага экзархату РПЦ пазбавіць сьвятара Яна Спасюка духоўнага сану. Рашэньне не было адзінадушным: амаль палова папоў не галасавала.** Айцец Спасюк належыць да Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай народнай царквы і змагаецца за незалежнасьць беларускага праваслаўя. Сабор заклікаў Спасюка раскаяцца ў сваёй дзейнасьці.

**Б.Т.**

### Нунцый уручыў даверчыя лісты

**Новы пасол Ватыкану ў Беларусі славенскі арцыбіскуп Іван Юркавіч уручыў даверчыя лісты Лукашэнку.** Гэта ўжо пяты нунцый за час незалежнасьці. Юркавіч дагэтуль працаваў у Сэуле, Багаце й Маскве, а таксама ў аддзеле замежных справаў Ватыкану. Яго экcэленцыя беларускую мову вывучыць са службоўніка. Па-беларуску правіць штодня ранішнюю імшу, чытае ў вольны час Новы Запавет.

А вось пры Ватыкане пасла ад Беларусі не было й няма.

**К.П.**

### Вэтэраны Адраджэньня

**Учора паўстала аб'яднаньне "Вэтэраны Адраджэньня", ідэя стварэньня якога належыць мастаку Ўладзімеру Крукоўскаму.** Яно мусіць згуртаваць старажылаў-удзельнікаў адраджэнскага руху.

**Ігнат Чакацкі**

## Пацярпелыя за Беларусь

На мінулым тыдні працягваліся суды па "курапацкай справе". Андрэю Ягораву, Генадзю Дранковічу, Яўгену Афнагелю прысудзілі па 6 "мінімалак" штрафу, Аляксандру Губейку - 10, Мікалаю Ткачэнку - 5. Суды над сп.Сасімам і Казакевічам перанесеныя на гэты тыдзень. 19 лістапада ў Горадні пасьля пікету ў абарону "Пагоні" на рэдактара газэты Міколу Маркевіча, журналістаў Анджэя Пісальніка і Паўла Мажэйку склалі міліцэйскія пратаколы. Язэпа Палубятку (Масты) за арганізацыю несанкцыянаванага мітынгу на гарадзкім стадыёне пакаралі на 155 мінімальных заробкаў.

# Лёс таксіста Варавы,

*які зьбіў Ермаловіча*

**Хутка два гады, як загінуў Мікола Ермаловіч. А помнік на ягонай магіле зьявіўся толькі месяц таму — акурат перад Дзядамі. Усталявала яго дачка гісторыка Алена Ермаловіч сама. Хоць пасьля сьмерці ёй абяцалі ня толькі помнік, але і мэмарыяльную шыльду на доме, дзе ён жыў, і нават вуліцу яго імя.**

Дачка Ермаловіча кажа, што шмат хвароб, з дому выходзіць нячаста, а таму яна радая, што насуперак угаворам пахавала бацьку ня ў Менску, а побач з мамі, на маладэчанскіх могілках: "Я б туды, у сталіцу, не даехала, і помніка б там дасюль не было".

Мікола Ермаловіч загінуў 4 сакавіка 2000 г. у Менску: ішоў на пошту па газэты і трапіў пад машыну. Таксіст зь біблійным прозьвішчам Варава, які па неасьцярожнасьці зьбіў Ермаловіча, атрымаў 3 гады "хіміі" (удзень — праца, з 22-й да 6-й — перабываньне ў спэцпамяшканьні пад аховай) і быў пазбаўлены на той самы тэрмін правоў на кіраваньне аўтамабілем. Маглі даць і болей, але суд улічыў ненаўмысны характар забойства ды просьбу дачкі Ермаловіча не караць жорстка таксіста.

Праз нейкі час Уладзімер Варава зьвярнуўся да суду з просьбай не забіраць правоў, бо ня мае ніякай іншай прафэсіі. Відаць, хацеў бы на сваёй "хіміі" працаваць шафёрам. Алена Ермаловіч кажа, што, дазнаўшыся пра гэта, "аж асупянела ад такога нахабства". Яна кажа: "Лепш бы я вярнула забойцу бацькі грошы, якія ён сплаціў у якасьці маральна-матэрыяльнай кампэнсацыі на пахаваньне, толькі б яму не вярталі правоў". На судовы разгляд варавайскай апэляцыі яна з-за хваробы не патрапіла. Па тэлефоне ёй адказалі, што суд адхіліў просьбу таксіста.

**Ігнат Чакацкі**

## Камэнтар

# Кадэбісты ўзмацняюць пазыцыі

На мінулым тыдні былі арыштаваныя дырэктар менскага заводу халадзільнікаў Л.Калугін, дырэктар стадыёну "Трактар" У.Алейнікаў, намесьнік кіраўніка Беларускай чыгункі Назарэнка. Адпраўлены ў адстаўку і кіраўнік чыгункі Віктар Рахманько. Іх абвінавачваюць у эканамічных злачынствах.

Разьбіральніцтва стала пагражаць і былому генпракурору А.Бажэлку, былому дарадцу Лукашэнкі С.Посахаву, былому намесьніку кіраўніка Адміністрацыі прэзыдэнта І.Пашкевічу, былому тэлекамэнтатару А.Зімоўскаму і шэрагу іншых высокапастаўленых дзеячоў, якія, паводле сьцьвярджэньняў СМІ, нейкім чынам атрымалі кватэры (сёй-той нават чатырохпакаёвую) у люксавым доме ля гатэлю "Спадарожнік" у Менску. Дом будавала чыгунка, і менавіта парушэньні пры разьмеркаваньні кватэраў сталі адной з прычынаў абвінавачаньня Рахманька.

У скандал, такім чынам, уцягнуты цэлы хаўрус асобаў з былога складу лукашэнкаўскай адміністрацыі. Тымсамым узмацняюцца пазыцыі "кадэбэшнага клану" ў дзяржапараце. Абавязкі па кіраўніцтве чыгункай, па нашых зьвестках, могуць быць ускладзеныя на былога высокапастаўленага супрацоўніка другога аддзелу КДБ.

Адстаўка Рахманька стала магчымай пасьля таго, як Пуцін зьняў з пасады міністра шляхоў зносінаў Расеі М.Аксёненку. Арышт Л.Калугіна таксама супадае з аслабленьнем пазыцыяў "праваслаўнага клану" ў беларуска-расейскім бізнэс-сьвеце.

Ня выключана, што цяперашнія арышты нейкім чынам зьвязаныя са зьвядзеньнем рахункаў за сёлетнюю прэзыдэнцкую кампанію.

**Мікола Бугай**

## Цытаты тыдня

# Пра гісторыка Міколу Ермаловіча



**Генрых Далідовіч, рэдактар часопісу "Маладосць":** "Калі яму яшчэ было ... толькі паўгоду ... маці ўзяла яго на поле, дзе жала жыта. Там снапы склала, каб ад сонца яго берагчы, і калі снапы тыя ўпалі, Мікола Іванавіч у паўгоду амаль асьлеп... У гады вайны ён паехаў у бежанцы. У Маскве, вяртаючыся, трапіў паміж буфэрамі цягніка. Так, што з вачэй пырснула кроў. ... Ён паехаў арганізоўваць школу ў Віцебскую вобласьць і там трапіў на міннае поле. І прайшоў, сьляпы чалавек".

**Міхась Казлоўскі, рэдактар часопісу "Віленскі куфэрак":** "Жонка яго ... яшчэ недзе ў 46-м годзе расейскую літаратуру... выкладала па-беларуску".

**Міхась Чарняўскі, гісторык:** "...калі Караткевіч Уладзімер сьвяткаваў сваё 50-годзьдзе ... дарункаў у яго было там усякіх, кветак і ўсё іншае. То ён мне адзінае паказаў, самы даражэйшы падарунак. Пераплеценую кніжку па гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. На машынцы надрукавана акуратненька. Вельмі шыкоўны пераплёт. Гэта яму рабілі студэнты-мастакі Тэатральна-мастацкага інстытуту тагачаснага".

**Цытуецца паводле праграмы "Вострая Брама" радыё "Свабода"**

# Хроніка зьнішчэньня

## 15 ТРАЎНЯ 2001 Г.

Рэдактар "Пагоні" Мікола Маркевіч і журналіст Павал Мажэйка былі выкліканыя ва Ўпраўленьне КДБ па Гарадзенскай вобласьці на размову. Прычынай выкліку стаў артыкул "Інтэграсты ў Горадню не прыедуць", апублікаваны ў "Пагоні" 10 траўня.

Размову з журналістамі правадзіў Аляксей Цярэнцеў, опэрупаўнаважаны аддзелу па барацьбе з тэрарызмам. Яго цікавіла паходжаньне заявы Рады Камандзіраў Беларускай Народнай Самаахововы, дасланай факсам у рэдакцыю "Пагоні". Варта адзначыць, што супрацоўнік КДБ і ягоныя калегі паводзілі сябе ў дачыненьні да журналістаў карэктна. Аднак опэрупаўнаважаны падкрэсьліваў, што гэтая заява падпадае пад артыкул Крымінальнага кодэксу "Пагроза зьдзяйсьненьня тэрарыстычнага акту". З журналістаў узялі тлумачэньні й адпусьцілі.

На працягу 15—21 траўня 2001 г. Міколу Маркевіча і Паўла Мажэйку выклікалі на допыты ў КДБ тры разы. Справу газэты вёў сьледчы Барыс Рагімаў, які ў свой час пасадзіў Паўла Шарамета. Яго цікавіла ня столькі заява Рады Камандзіраў, колькі пытаньні, як адбываецца вёрстка, колькі зарабляюць журналісты і г.д. Гучалі абвінавачаньні ўжо не ў "тэрарызьме", а ў "неданясеньні" КДБ інфармацыі. Пачынаецца запалохваньне калектыву "Пагоні". На допыты выклікалі нават тэхнічных работнікаў, якія заведама не маглі нічога паведаміць адносна "Заявы". На апошнім допыце 21 траўня рэдактар "Пагоні" зрабіў пісьмовую заяву, што надалей адмаўляецца хадзіць на пустыя размовы, на якіх гаворыцца немаведама што.

## 7 ЖНІЎНЯ 2001 Г.

Паўлу Мажэйку па рэдакцыйным тэлефоне патэлефанаваў супрацоўнік КДБ Аляксей Цярэнцеў і прапанаваў сустрэчу. Пасьля некалькіх звычайных пытаньняў Цярэнцеў пачаў цікавіцца, ці ведае Павал пра існаваньне "Рады Камандзіраў", ці атрымлівала "Пагоня" яшчэ якія-небудзь заявы альбо тэлефанаваньні, ці магла, на думку журналіста, існаваць арганізацыя з такой назвай падчас вайны. Журналіст адмовіўся размаўляць з супрацоўнікам КДБ.

Опэрупаўнаважаны закрануў тэму магчымага закрыцьця "Пагоні". "Хоць закрыцьцё газэты і не ўваходзіць у кампэтэнцыю КДБ, аднак для гэтага існуюць адпаведныя органы..." — заявіў ён. З размовы можна было зразумець, што артыкул "Інтэграсты ў Горадню не прыедуць" і заява Рады Камандзіраў разглядаюцца ў сувязі з выбухам ля расейскай амбасады, што адбыўся ноччу на 31 траўня.

23 жніўня 2001 г. міжнародная арганізацыя "Артыкул 19", якая ставіць за мэту абарону свабоды слова ва ўсім сьвеце, зьвярнулася да пракурора Гарадзенскай вобласьці Васіля Літвінава, выказаўшы заклапочанасьць ціскам на газэту "Пагоня" з боку супрацоўнікаў КДБ. Згодна з інфармацыяй "Артыкулу 19", усіх супрацоўнікаў "Пагоні" выклікалі ў КДБ у сувязі з публікацыяй, у якой утрымлівалася заява невядомай арганізацыі з пагрозамі на адрас парлямэнцкага сходу саюзу Беларусі і Расеі, сэсія якога ў той час праходзіла ў Горадні. Супрацоўнікі КДБ задавалі журналістам пытаньні ня толькі пра крыніцы гэтай інфармацыі, але і пра структуру і дзейнасьць рэдакцыі.

Акрамя таго, мела месца спроба завэрбаваць журналіста "Пагоні" Паўла Мажэйку, а рэдактару газэты Міколу Маркевічу паведамілі ў абласной пракуратуры, што "Пагоня" хутка будзе зачыненая.

Як адзначаецца ў заяве "Артыкулу 19", усе гэтыя дзеяньні пярэчаць беларускаму заканадаўству аб друку і міжнародным абавязаньням Беларусі. Арганізацыя заклікала беларускія ўлады неадкладна спыніць запалохваньне журналістаў і стварыць умовы для разьвіцьця незалежных сродкаў масавай інфармацыі.

## 27 ЖНІЎНЯ 2001 Г.

Пракуратура Гарадзенскай вобласьці зьвярнулася ў Гаспадарчы суд Гарадзенскай вобласьці з пазовам аб прыпыненьні дзейнасьці газэты "Пагоня" і ліквідацыі рэдакцыі. Сярод шматлікіх прэтэнзіяў пракуратуры законнай была толькі адна — папярэджаньне "Пагоні", вынесенае Дзяржкамдрукам 17 лістапада 2000 г. у адпаведнасьці з арт.5 Закону аб друку за публікацыю заявы незарэгістраванай структуры — Каардынацыйнага камітэту "Гарадзенская ініцыятыва" ("Пагоня" № 40 ад 26 кастрычніка 2000 г.). Аднак паводле Закону аб друку фармальнай падставай для прыпыненьня дзейнасьці СМІ праз суд могуць быць толькі "неаднаразовыя на працягу году парушэньні рэдакцыяй патрабаваньняў арт.5 дадзенага Закону, з нагоды якіх выносіліся пісьмовыя папярэджаньні" (арт.16).

## 5 ВЕРАСЬНЯ 2001 Г.

Першы намесьнік пракурора Гарадзенскай вобласьці Ўладзімер Аніська распачаў крымінальную справу па факце публікацыяў у газэце "Пагоня" № 36 ад 4 верасьня 2001 г. Сп.Аніська ўгледзеў у артыкулах "Ідзем на выбары!" і "Ён — не Лукашэнка" паклёп на прэзыдэнта Рэспублікі Беларусі.

У гэты ж дзень на падставе ўзгаданай крымінальнай справы старшы сьледчы пракуратуры Ленінскага раёну Горадні Альфрэд Танкевіч вынес пастанову аб арышце накладу "Пагоні" (№ 36) непасрэдна ў Гарадзенскай друкарні. Канфіскацыя ўсяго накладу была праведзеная пад кіраўніцтвам сьледчага пракуратуры Ленінскага раёну Горадні Сакомскага з 19.40 да 20.20. Было арыштавана 11008 асобнікаў газэты. Друкаваньне астатняга накладу было забароненае.

У 20.00 сьледчая брыгада пракуратуры пад кіраўніцтвам Альфрэда Танкевіча канфіскавала сыстэмныя блёкі ўсіх чатырох кампутараў, якія знаходзіліся ў рэдакцыі. Таксама былі забраныя дзьве дыскеты, усе сеткавыя карткі і *SCSI*-кантролер, што зрабіла немагчымай працу рэдакцыі.

Усю ноч з 5 на 6 верасьня ў памяшканьні рэдакцыі дзяжурыў міліцэйскі нарад, які ахоўваў аплямбаваныя дзьверы ў бухгальтэрыю.

Прыблізна а 24-й у кватэру, дзе прапісаная галоўная бухгальтарка газэты, ламіўся сьледчы Альфрэд Танкевіч зь міліцэйскім нарадам. Сваімі дзеяньнямі яны пабудзілі суседзяў і перапалохалі жыхароў кватэры, дзе, дарэчы, знаходзілася малое дзіця. Жыхарка кватэры, дачка галоўнай бухгальтаркі, выходзячы ў 7 гадзінаў раніцы на працу, убачыла, што на лесьвічнай пляцоўцы дзяжурыць чалавек у цывільным. Ён пацікавіўся, дзе знаходзіцца бухгальтарка, і "дапамог" жанчыне адвесьці дзіця ў садок.

## 6 ВЕРАСЬНЯ 2001 Г.

З 11.10 да 12.40 старшы сьледчы Танкевіч зладзіўператрус у памяшканьні рэдакцыі і канфіскаваў асноўную бухгальтарскую дакумэнтацыю за 2001 г.

## 7 ВЕРАСЬНЯ 2001 Г.

Судзьдзя Вышэйшага гаспадарчага суду Валеры Жандараў разгледзеў матэрыялы пазову пракурора Гарадзенскай вобласьці да рэдакцыі "Пагоні" аб прыпыненьні дзейнасьці газэты і ліквідацыі юрыдычнай асобы. Нягледзячы на адсутнасьць "неаднаразовых на працягу году парушэньняў, з нагоды якіх выносіліся пісьмовыя папярэджаньні", Жандараў прызнаў пададзеныя пракуратурай матэрыялы дастатковымі, каб прыняць пазоў да разгляду.

## 12 ВЕРАСЬНЯ 2001 Г.

З 12.30 да 13.10 начальнік АДП Камітэту па фінансавых расьсьледаваньнях Сяргей Песьняк арыштаваў 3082 кг паперы, якая належала "Пагоні" і знаходзілася на складзе друкарні. Арыштаваная папера перададзеная на адказнае захаваньне старшаму кладаўшчыку матэрыяльнага складу Анжаліне Аверынай.

Адначасова арыштаваныя грошы газэты, агульнай сумай 762 тыс. рублёў, якія былі пераведзеныя на рахунак Гарадзенскай друкарні ў якасьці перадаплаты за друк нумару газэты (№ 36). Сьледчы Гарадзенскай абласной пракуратуры Алег Кулевіч, які ўзначаліў сьледзтва па крымінальнай справе, выклікаў на допыт аўтара артыкулу "Ідзем на выбары!" Паўла Мажэйку і рэдактара "Пагоні" Міколу Маркевіча. Допыт Маркевіча доўжыўся з 18-й да 22-й гадзіны. Журналісты зьвярнулі ўвагу сьледчага на тое, што паклёпу на прэзыдэнта ў арыштаваным нумары няма, і давялі, што ў артыкулах, дзе згадвалася пра зьнікненьне палітычных апанэнтаў Лукашэнкі, аўтары выказалі свае ўласныя думкі і ацэнкі, а гэта законам дазваляецца. Больш за тое, пазыцыя аўтараў грунтавалася на шматлікіх публікацыях у беларускім ды замежным друку.

Пакуль цягнуўся допыт, у друкарні адбыўся арышт накладу наступнага (№ 37) нумару "Пагоні". Было арыштавана 7832 асобнікі. Далейшае друкаваньне нумару было забароненае. Акцыяй кіраваў той самы сьледчы Танкевіч.

## 13 ВЕРАСЬНЯ 2001 Г.

Сьледчы абласной пракуратуры А.Кулевіч сумесна са сьледчым пракуратуры Ленінскага раёну А.Танкевічам, опэрупаўнаважаным аддзелу крымінальнага вышуку Ленінскага РАУС А.Санічавым і опэрупаўнаважаным аддзелу па барацьбе з эканамічнай злачыннасьцю Ленінскага РАУС А.Якутам правяліператрус у рэдакцыі. Вобшук быў пачаты ў 12.33 і скончаны ў 13.32. Была канфіскаваная кантрольная раздрукоўка "Пагоні" № 37 на адзінаццаці аркушах і ліст чытача зь Пінску пад загалоўкам "Графіці на банкнотах".

13—21 верасьня 2001 г. сьледчы Кулевіч у межах крымінальнай справы ад 5 верасьня дапытаў усіх тэхнічных супрацоўнікаў рэдакцыі



Мікола Маркевіч

— вярстальніка Аляксея Салея, карэктарку Сьвятлану Гібульскую, наборшчыцу Ірыну Салей, галоўную бухгальтарку Ніну Акудовіч. Сьледчага цікавілі крыніцы фінансаваньня газэты, умовы аплаты працы супрацоўнікаў, іх прыватнае жыцьцё. Кулевіч таксама пытаўся, як ставяцца да асобы Аляксандра Лукашэнкі ў рэдакцыі.

## 22 ВЕРАСЬНЯ 2001 Г.

Намесьнік пракурора Яўген Труцько ўручыў Міколу Маркевічу папярэджаньне аб парушэньні Закону аб друку. Падставай для папярэджаньня былі артыкулы "Ідзем на выбары!", "Ён — не Лукашэнка" і верш "Абяшчал! Абяшчаю! Буду абяшчаць!". Пракурор сьцьвердзіў, што ў гэтых матэрыялах утрымліваюцца зьвесткі, якія ганьбяць гонар і годнасьць прэзыдэнта Беларусі, паклёп на яго. Яўген Труцько праігнараваў той факт, што "Пагоня" № 36 да чытачоў ня трапіла, а значыць не ўвайшла ў сфэру дзеяньня Закону аб друку, бо асноўнай прыкметай любога сродку масавай інфармацыі зьяўляецца яго распаўсюджваньне.

## 27 ВЕРАСЬНЯ 2001 Г.

Мелася адбыцца першае паседжаньне Вышэйшага гаспадарчага суду па справе "Пагоні". Судзьдзя Валеры Жандараў перанёс разгляд на 5 кастрычніка, бо пазоўнік — Гарадзенская абласная пракуратура — не падаў усіх неабходных для разгляду справы дакумэнтаў. 27 жніўня ён накіраваў у Вышэйшы гаспадарчы суд пазоўную заяву ад імя Дзяржаўнага камітэту па друку. Аднак за тры дні да паседжаньня пракуратура накіравала на адрас суду дадатковыя патрабаваньні да яе. Копіі гэтых дакумэнтаў не былі прадстаўленыя рэдакцыі газэты, што зьяўляецца парушэньнем заканадаўства.

27 верасня ў судзе Дзяржкамдрук у асобе начальніка юрыдычнага аддзелу Ліліі Богдан адмовіўся ад пазоўнай заявы. Пры гэтым было падкрэсьлена, што "Дзяржкамітэт па друку ня мае прававых падставаў для падтрымкі прад'яўленых пракуратурай пазоўных патрабаваньняў".

## 5 КАСТРЫЧНІКА 2001 Г.

У Вышэйшым гаспадарчым судзе Беларусі адбылося судовае паседжаньне па справе аб закрыцьці "Пагоні". Судзьдзя Валеры Жандараў перанёс судовы разбор на 23 кастрычніка "дзеля правільнага і ўсебаковага высьвятленьня абставінаў". Матываваў ён гэта тым, што гарадзенская абласная пракуратура не прадставіла суду копію пратаколу арышту ў друкарні накладу "Пагоні" № 36.

На самым пачатку судовага паседжаньня абаронца "Пагоні" адвакат Анжэла Ратнер хадайнічала аб спыненьні справы ў адносінах да газэты. Паводле яе словаў, пасьля таго як 27 верасьня Дзяржаўны камітэт па друку адмовіўся ад свайго пазову, справа падлягае спыненьню. Аднак судзьдзя адхіліў гэтае хадайніцтва.

16 кастрычніка 2001 г. рэдакцыя "Пагоні" зьвярнулася ў Гаспадарчы суд Гарадзенскай вобласьці з пазовам да пракуратуры Гарадзенскай вобласьці аб прызнаньні несапраўдным папярэджаньня, вынесенага газэце пракуратурай Гарадзенскай вобласці 21 верасьня 2001 г. Справа за нумарам 1205-5 была прынятая да разгляду судзьдзём С.Кулакоўскім.

## 23 КАСТРЫЧНІКА 2001 Г.

Судзьдзя Вышэйшага гаспадарчага суду Беларусі Валеры Жандараў прыпыніў на няпэўны тэрмін судовую справу аб закрыцьці "Пагоні". Працэс адновіцца пасьля таго, як Гаспадарчы суд Гарадзенскай вобласьці разгледзіць справу аб прызнаньні несапраўдным папярэджаньня, вынесенага газэце пракуратурай Гарадзенскай вобласці за артыкулы, зьмешчаныя ў арыштаваным 5 верасьня нумары газэты.

Перад пачаткам працэсу ахоўнікі Вышэйшага гаспадарчага суду загадалі прысутным журналістам пакінуць у гардэробе дыктафоны і тэлекамэры. Кіраўнік Цэнтру прававой дапамогі СМІ пры Беларускай асацыяцыі журналістаў Міхаіл Пастухоў, які прадстаўляе ў судзе інтарэсы "Пагоні", расцаніў дзеяньні аховы як грубае парушэньне правоў журналістаў.

Паседжаньне па справе "Пагоні" доўжылася 18 хвілінаў. Рашэньне аб прыпыненьні справы судзьдзя Валеры Жандараў прыняў пасьля таго, як даведаўся, што "Пагоня" падала пазоў аб скасаваньні апошняга папярэджаньня, вынесенага ёй пракуратурай Гарадзенскай вобласьці.

## 26 КАСТРЫЧНІКА 2001 Г.

Судзьдзя Валеры Жандараў аднавіў вытворчасьць па справе Гарадзенскай абласной пракуратуры аб закрыцьці "Пагоні" і ліквідацыі яе рэдакцыі. Гэтым самым ён адмяніў сваё ж рашэньне, датаванае 23 кастрычніка. Адначасова Валеры Жандараў прыняў да сваёй вытворчасьці справу № 1205-5 Гаспадарчага суду Гарадзенскай вобласьці па сустрэчным пазове газэты да Гарадзенскай абласной пракуратуры аб прызнаньні несапраўдным папярэджаньня ад 21 верасьня 2001 г. Рашэньнем судзьдзі гэтыя разнародныя справы былі аб'яднаныя ў адну вытворчасьць (справа № 9-16/2001).

## 9 ЛІСТАПАДА 2001 Г.

На чарговым судовым паседжаньні адвакаты "Пагоні" Міхаіл Пастухоў, Анжэла Ратнер і Яўген Маліноўскі агучылі афіцыйную думку Міністэрства інфармацыі Беларусі (раней Дзяржкамдрук), што "адказнасьць паводле арт.5 Закону аб друку настае за распаўсюджваньне прадукцыі сродку масавай інфармацыі". Тым самым сталася відавочным, што папярэджаньне Гарадзенскай абласной пракуратуры ў адрас газэты ад 21 верасьня 2001 г. не грунтуецца на законе. Бо гарадзенскія пракуроры зрабілі ўсё, каб не дапусціць "распаўсюджваньня". Афіцыйны прадстаўнік Міністэрства інфармацыі начальнік юрыдычнага аддзелу Лілія Богдан пацьвердзіла гэтую выснову. Судзьдзя прыняў рашэньне перанесьці спрэчкі на наступнае судовае паседжаньне.

## 12 ЛІСТАПАДА 2001 Г.

Судзьдзя Валеры Жандараў прыняў рашэньне закрыць газэту "Пагоня", ліквідаваць рэдакцыю і спагнаць э газэты 150 тысяч рублёў судовых выдаткаў.

**Падрыхтавана журналістамі "Пагоні"**

Косава, Македонія

# Алі Ахмэці: "Пара месяцаў узброенай барацьбы могуць даць больш за доўгія гады мірнай палітычнай дзейнасьці"

**Македонскі парлямэнт прыняў папраўкі да канстытуцыі, якіх дамагаліся прадстаўнікі альбанскай грамады. Альбанская мова стала другой дзяржаўнай. Альбанцы атрымалі права на вышэйшую адукацыю па-альбанску, а таксама права на прапарцыйную іхнай колькасьці прысутнасьць у дзяржаўных установах, судах і перш за ўсё ў паліцыі.**

Узамен узброеная арганізацыя македонскіх альбанцаў *UÇK* (Нацыянальнае войска вызваленьня) спыніла баявыя дзеяньні і перадала большую частку зброі натаўскім войскам. У рамках пагадненьня прэзыдэнт Македоніі Барыс Трайкоўскі абвесьціў для партызанаў амністыю. Македонцы сумна жартуюць, што неўзабаве да іх у краіну прыедзе бэн Ладэн, бо, маўляў, выйшла амністыя для тэрарыстаў. Ці насамрэч аднаўленьне правоў альбанцаў у Македоніі ёсьць перамогай тэрарызму? У сьвеце трывалага меркаваньня няма — яшчэ сёлета ў траўні генэральны сакратар *NATO* Робэртсан назваў Нацыянальнае войска вызваленьня "бандай разбойнікаў і забойцаў, мэта якіх — зьнішчэньне дэмакратычнай Македоніі". Але ўжо ў сярэдзіне жніўня пад ціскам з боку *NATO*, ЗША і эўрапейскіх пасярэднікаў македонцы й альбанцы падпісалі мірнае пагадненьне. Да часу прыняцьця канстытуцыйных паправак спынілася замежная дапамога македонскай эканоміцы. У *NATO* ня ведаюць, як глядзець на *UÇK*. Адныя высокія чыны хаўрусу неафіцыйна прызнаюць, што гэта тэрарысты, другія называюць дзейнасьць гэтае арганізацыі паўстаньнем і дзівяцца дысцыпліне, што панавала ў ейных шэрагах падчас сямімесячнай кампаніі. Усе пагаджаюцца, што македонская *UÇK* шмат менш крыўдзіла цывільнае насельніцтва, чым косаўская, хаця асобныя выпадкі выкраданьняў, катаваньняў і перасьледаў зафіксаваныя. Цывільная ахвяры ляжаць перадусім на сумленьні македонскага войска і службы бясьпекі, бо блага вышколеныя жаўнеры ня ўмелі змагацца з партызанамі і проста "прасавалі" снарадамі вёскі, кантраляваныя паўстанцамі.



Брытанскі журналіст і пісьменьнік Тымаці Гартан Эш сустрэўся з кіраўніком альбанскіх партызанаў Македоніі, 42-гадовым Алі Ахмэці. На пытаньне, ці можна назваць яго тэрарыстам, альбанец адказаў: "Нельга назваць тэрарыстам чалавека, які носіць вайсковыя адзнакі, змагаецца за акрэсьленыя мэты, паважае Жэнэўскую канвэнцыю і Гаагскі трыбунал, публічна выступае пад уласным імем і прозьвішчам, адказвае за ўсе свае ўчынкі і зацікаўлены ў пазытыўных рэформах, дэмакратыі і раўнапраўі ў краіне". Брытанскі журналіст піша, што Ахмэці на бэн Ладэна не падобны і нагадвае хутчэй такога сабе былога марксіста-леніноца. Дарэчы, няма ніякіх падставаў падазраваць мусульманіна Ахмэці ў сувязях зь міжнародным ісламскім тэрарызмам: пра рэлігію ён не выказваецца дый віскі п'е прыгодна, а таму ў сябры бэн Ладэну не пасуе.

Ахмэці нарадзіўся ў заселенай альбанцамі частцы Македоніі (тады гэта ўсё было цітаўскай Югаславіяй), вучыўся ў Прышцінскім унівэрсытэце, дзе ўдзельнічаў у радыкальным студэнцкім руху, спалучаючы альбанскі нацыяналізм з марксізмам-ленінізмам. Пасьля Прышцінскага паўстаньня альбанскіх студэнтаў 1981 г. 22-гадовы Ахмэці ўцёк у Швайцарыю. У 1993 г. вярнуўся ў Македонію, бо разьлічваў, што новая македонская дзяржава дасьць альбанцам дастатковыя правы. Але і ў Македоніі, і ў Югаславіі альбанцы і надалей цярпелі дыскрымінацыю. Ахмэці ўступіў у *LPK* — партыю косаўскіх альбанцаў, зь якой пасьля вырасла Вызвольнае войска Косава, і быў у мяцежным краі падчас вайны, але кажа, што ў баях ня ўдзельнічаў. Альбанскі правадыр пацьвярджае, што да перамогі ў Косаве македонскія альбанцы не наважыліся б пачаць сваю вайну.

З Косаўскае вайны Ахмэці зрабіў дзьве высновы. Па-першае, некалькі месяцаў узброенай барацьбы могуць даць больш за доўгія гады мірнай палітычнай дзейнасьці. Па-другое, гэта атрымаецца, толькі калі ўдасца ўцягнуць у справу Захад.

Македонская *UÇK* ад пачатку мела ясна сфармуляваныя патрабаваньні. Збольшага яны былі задаволеныя нядаўнімі папраўкамі да македонскае канстытуцыі. Канчатковай мэтай альбанцаў зьяўляецца большая дэцэнтралізацыя ўлады — "цэнтар" мусіць перадаць частку паўнамоцтваў мясцовым органам улады, што пацягне добрыя наступствы для раёнаў, населеных альбанцамі.

Большасьць назіральнікаў гаворыць пра нязгоду паміж альбанскімі палітычнымі элітамі Косава і Македоніі ды розныя стратэгічныя мэты, якія стаяць перад гэтымі абшарамі: калі Косаву патрэбная незалежнасьць, то македонскім альбанцам — толькі роўнасьць у правах. Ні першым, ні другім не патрэбная мітычная "Вялікая Альбанія". Македонскія альбанцы мараць пра шматнацыянальную адзіную Македонію і не патрабуюць фэдэрацыі, бо, як кажа Ахмэці, гэта абсурд у 2-мільённай дзяржаве плошчай 25000 кв.км (у 8 разоў меншай, чым Беларусь), дзе цяжка нават вызначыць межы паміж этнічнымі сэктарамі з-за перамяшанасьці насельніцтва.

Дый няма чаго македонскім альбанцам хапацца за зброю, адстойваючы свае правы. Яны перамогуць абсалютна мірным шляхам. Сёньня, паводле афіцыйных зьвестак, альбанцы складаюць 23% насельніцтва (паводле неафіцыйных — 35%). Пры захаваньні цяперашніх тэмпаў нараджальнасьці ў 2025 г. яны зробяцца ў Македоніі большасьцю. Што ж, македонцам можна параіць адно: рабіць больш дзетак і заставацца аптымістамі.

**Язапат Змысла**

### Косаўцы галасавалі за незалежнасьць

**У першых дэмакратычных парлямэнцкіх выбарах у Косаве ўзялі ўдзел 63% этнічных альбанцаў і 47% сэрбаў. Абіралі 120 дэпутатаў. Дэмакратычны саюз Косава на чале з былым філёзафам-дысыдэнтам Ібрагімам Руговам атрымаў 48 мандатаў, Дэмакратычная партыя камандзіра Арміі вызваленьня Косава Хашыма Тачы — 25, а левы альянс за будучыню Косава — 8. Сэрбскім дэпутатам дасталося 20 мандатаў. Астатнія месцы адышлі незалежным дэлегатам. Такім чынам, косаўцы прагаласавалі за выхад з Сэрбіі. Пасьля весткі пра перамогу Ругова заклікаў міжнародную супольнасьць прызнаць незалежнасьць Косава.**

Навіны зь Вільні

# Сапраўднае аблічча Барбары Радзівіл

Не давяраючы партрэтыстам XVI ст., схільным да схематызму, археоляг Вітаўтас Урбанавічус вырашыў рэканструяваць вобраз Барбары Радзівіл. Партрэт Барбары аднаўляўся навуковым мэтадам антрапалягічнай рэканструкцыі твару — мілімэтар за мілімэтрам дасьледаваўся чэрап. (Магіла Барбары Радзівілавай была "ўскрытая" яшчэ ў 30-х, за польскім часам).

Урбанавічус у інтэрвію літоўскай "Рэспублiцы" расказаў: "Нарэшце вызначыўся гарманічны профіль прыгожага жаночага твару. Яна ўмела падаць сябе: ейная пастава была грацыёзная, яна эфэктна танчыла і шыкоўна апраналася, сама мадэлявала вопратку. Ейнымі ўлюбёнымі колерамі былі белы, чырвоны і чорны... Яна была адзіная каралева ў Эўропе, што пабралася шлюбам па каханьні". Урбанавічус вызначыў, што Барбара Радзівіл была высокай жанчынай (163 см пры сярэднім росьце жанчынаў тае эпохі 155 см). Археоляг лічыць, што з 40 вядомых нам партрэтаў Барбары Радзівіл найбліжэйшая да арыгіналу гравюра Гірша Ляйбовіча XIX ст., выкананая па мініятуры Кранаха XVI ст. Але найбольшую вядомасьць атрымаў партрэт, напісаны невядомым аўтарам XIX ст., партрэт жанчыны незвычайнай прыгажосьці. Новы партрэт Барбары Радзівіл пакуль яшчэ не экспануецца.

**Э.Л.**



# Кабукі ў Вільні



**Нядаўна віленчукі мелі магчымасьць на ўласныя вочы пабачыць японскі нацыянальны тэатар кабукі, які завітаў у Літву на запрашэньне амбасады Японіі.** Калі хто ня ведае, гэты тэатар вызначаецца яскравай сцэнаграфіяй, спэцыфічным асьвятленьнем і тым, што ўсе ролі, у тым ліку жаночыя, там выконваюць мужчыны.

Прэзэнтаваная літоўскім гледачам праграма "Кабукі для ўсіх" складаецца зь дзьвюх частак. У першай, "інфармацыйнай", распавядаецца абсалютна ўсё пра японскі тэатар. Можна, прыкладам, даведацца, з чаго зроблены барабан, пад гук якога адбываецца сцэнічная дзея, спасьцігнуць нюансы грыму, тонкасьці жаночай і мужчынскай мімікі, паназіраць за рытуалам апрананьня адмысловага сцэнічнага касьцюму. Другая частка — спэктакль "Дзяўчына гліцыніі", у якім глядач пабачыць і бойкі на мячах, і каханьне, і нават сапраўдную сьнежную зіму на сцэне. Галоўную ролю ў спэктаклі грае актор Ішымура II — прадстаўнік 400-гадовай дынастыі актораў кабукі. Ягоны бацька ўвогуле зьяўляецца жывой нацыянальнай каштоўнасьцю Японіі.

**Дзяніс Раманюк**

### Новы беларускі сьлед пэруанскае карупцыі

**Антыкарупцыйная камісія парлямэнту Пэру выявіла, што ў 1997 г., калі краіна купляла ў Беларусі й Расеі зьнішчальнікі Міг-29, таямніча зьніклі каля 40 млн. даляраў.** Пэруанскі ўрад выдзеліў 180 млн. даляраў на 6 зьнішчальнікаў, але купленыя былі толькі 3 самалёты — па 42 млн. даляраў кожны. Куды падзеліся астатнія грошы — невядома.

### Польскія жаўнеры паедуць у Аўганістан

**На вайну ў Аўганістан паедуць 300 польскіх жаўнераў. 80 зь іх — з процітэрарыстычнага аддзелу "Гром".** Ёсьць таксама сапёры, хімікі і біёлягі.

### Француcкія паліцыянты выйшлі на вуліцы

**За апошнія два тыдні францускія паліцыянты ўжо чатыры разы выходзілі на дэманстрацыі,** б'ючы ў бубны і дзьмучы ў сьвісткі, каб выказаць свой пратэст супраць скарачэньня фінансаваньня і запатрабаваць забесьпячэньня патрульных бронекамізэлькамі.

### Баш за Буша

**Амэрыканцы прызначылі за галаву бэн Ладэна ўзнагароду 25 млн. даляраў.** У адказ міністар бясьпекі талібаў Хакані заявіў, што ягоная краіна гатовая заплаціць за галаву амэрыканскага прэзыдэнта Буша 50 млн. даляраў.

### Пісьменьнік-невук

**Літоўскія СМІ абураюцца апошняй кніжкай амэрыканскага пісьменьніка Джонатана Франзэна,** які самымі чорнымі фарбамі малюе старую беларускую сталіцу. У гэтым брудным месьце, піша Франзэн, увесь час не хапае вугалю й электрычнасьці, невядомыя разьяжджаюць на машынах і страляюць, а згаладнелыя віленчукі харчуюцца, спажываючы сваіх коней. Галоўны герой кніжкі — былы міністар, які ашуквае амэрыканскіх бізнэсоўцаў. Пасол ЗША ў Літве абурыўся гэткай "аўтарскай інтэрпрэтацыяй". У выдавецтве, якое апублікавала кнігу, кажуць, што аўтар выбраў Літву выпадкова, а сытуацыя, апісаная ў крымінальным рамане, выдуманая. Сам Франзэн, які днямі атрымаў *National Book Award* — самую прэстыжную літаратурную ўзнагароду ЗША, — ад камэнтароў адмаўляецца.

### Папа прыедзе ў Сафію

**У траўні 2002 г. Папа Рымскі прыедзе ў Баўгарыю.** Яшчэ год таму галава Баўгарскае Праваслаўнае Царквы казаў, што візыт Папы непрымальны з "кананічных і практычных" прычынаў. Пад ціскам грамадзкасьці ярархі мусілі "забраць назад" гэтыя свае словы. Але Папу ў краіну запрасілі не яны, а грамадзкі камітэт з 75 баўгарскіх інтэлектуалаў. Каталікі ў Баўгарыі складаюць 1% насельніцтва.

### Інтэрнэт, у натуры

**Зьняволеныя чатырох калёніяў Арменіі атрымалі магчымасьць карыстацца Інтэрнэтам.** Праўда, электронную пошту вязьняў кантралююць і абмяжоўваюць ім доступ да некаторых рэсурсаў Сеціва, але зьняволеныя могуць выстаўляць на продаж у Інтэрнэце свае вырабы.

**Сяргей Рак**

## Зьезд беларусаў паўднёвай Аўстраліі



**У пятніцу ў Адэлаідзе адбыўся зьезд Беларускага Аб'яднаньня ў Паўднёвай Аўстраліі.** Гэтая арганізацыя паўстала ў 1977 г., першым яе старшынём быў грамадзкі дзеяч і пісьменьнік Янка Ролсан. На зьезьдзе пераабралі старшыню. Ім у чарговы раз стаў Віктар Кавалеўскі з Радашкавіч, былы вайсковец, інжынэр, які ў 1981 г. звольніўся з савецкай арміі з палітычных прычынаў. У 92-м ён разам з жонкай Інай і трыма дочкамі пераехаў у Аўстралію. Ён зьяўляецца таксама сакратаром тамтэйшага Беларускага гістарычнага таварыства, выдаў кнігу "Беларусы Адэлаіды". Рыхтуе наступную — "Беларусы Аўстраліі. Першы погляд".

**А.Г.**

Павал Абрамовіч

# Аўтастанцыя за паўаўтобуса

## *Койданава*

Пазаўчора, 24 лістапада, пасьля двухгадовай рэканструкцыі зноўку пачала нармальна функцыянаваць аўтастанцыя ў райцэнтры Койданава. Здача ў эксплюатацыю прайшла з помпаю: стужку на ўваходзе ў адрамантаваны будынак на вачах усьцешаных месьцічаў і сталічных журналістаў перарэзаў сам міністар транспарту і камунікацыяў Беларусі Міхаіл Баравы.

Кожны дзень паслугамі койданаўскай аўтастанцыі, пабудаванай у 1973 г., карыстаецца 800—1300 пасажыраў. Адсюль ідуць аўтобусы ў Менск, Наваградак, Карэлічы, Стоўпцы, Нясьвіж, Баранавічы — усяго пад 60 кірункаў. Дзяржынскі аўтапарк налічвае 25 аўтобусаў плюс дзьве "маршруткі" (квіток на апошнія каштуе 320 рублёў).

Тузін прадстаўнікоў менскіх *mass-media* давезьлі да Койданава на камфартабэльным аўтобусе МАЗ-152 за гадзіну і адразу — міма доўгачаканай аўтастанцыі — павезьлі абедаць у кавярню-бар "Колас". Славянскае хлебасольства або савецкая завядзёнка? Думаючы пра гэта, я сеў разам з усімі за накрыты стол. Ежа была простая, але сытная: боршч, адбіўныя з бульбяным пюрэ, кілбаса і капусны салат. Піві мінэралку "Барысаўская-3" і гарбату. Хтоніхто жартаваў, гледзячы на пустыя кілішкі, што стаялі ля кожнага прыбора і ў якія да канца абеду так нічога і не налілі.

Пасьля абеду, чакаючы міністра, журналісты слухалі старшыню райвыканкаму Ткачова, які проста ў аўтобусе распавядаў пра жыцьцё-быцьцё гораду і раёну. Зь ягоных словаў, пляны прамысловага і эканамічнага росту ў раёне выкананыя і перавыкананыя, дарогі рамантуюцца, газ праводзіцца, жытло будуецца, дзеці ва ўсіх школках харчуюцца бясплатна. У 25-тысячным Койданаве за 2001 г. адбылося 15 кірмашоў і агульнагарадзкі крос, здадзены ў эксплюатацыю 35-кватэрны дом для "аўганцаў", адкрытая новая АТС на 5200 нумароў, даведзены да ладу сквэр — там пабудавана мноства альтанак, дзіцячая кавярня і летняя сцэна, упарадкаваныя гарадзкія могілкі. Са словаў мясцовага "галавы", ён адкрыты для грамадзянаў, яны маюць нумар ягонага мабільніка і, калі ёсьць пытаньні, тэлефануюць. У ліку галоўных праблемаў Ткачоў назваў адсутнасьць у горадзе водаачышчальнай станцыі (у койданаўскай пітной вадзе падвышанае утрыманьне жалеза), недахоп кацельных магутнасьцяў у раёне вуліцы Пратасава, праблему адпачынку моладзі, нястачу месцаў культурнага адпачынку ўвогуле.

Я мог бы дапоўніць пералік праблемаў і нагадаць Ткачову, што ў Койданаве ў добрым стане толькі цэнтральная дарогі, што тут няма шака ліхтароў і таксафонаў, крамы ня радуюць разнастайнасьцю тавараў (а кнігарні наагул няма), што пасьля таго, як на старых могілках невядома навошта высеклі ўсе дрэвы, груганьнё перабралася ў гарадзкі парк...

Нарэшце мы выправіліся на аўтастанцыю, дзе нас ужо чакалі мясцовае чыноўніцтва, генэральны дырэктар Мінскаблтрансу Уладзімер Цярэшчанка і нешматлікая купка жыхароў гораду. Міністар спазьняўся.

О, аўтастанцыя! Колькі дзіцячых успамінаў зьвязана з табой! У суботу будзяць рана-ранютка: трэба ехаць да бабулі і дзядулі ў вёску. І вось брыдзем на аўтастанцыю, курчачыся ад холаду і дасыпаючы на хаду. А там бухнешся ў адно зь нешматлікіх брудных драўляных крэслаў, калі выпадкова вольнае, і сьпіш. Хвілінаў 10-15, пакуль бацькі ня возьмуць квіткі... Затым — у набітым да ачмурэньня сьмярдзючым салёне (неадменны рэзкі пах бэнзыну ў беларускіх прыгарадных аўтобусах вечны, як калярадзкі жук на бульбяных палёх), сярод мажных койданаўскіх цётак і шчарбатых дзядзькоў у "куфайках" едзеш, прыгадваючы пра чутыя ад дзядулі фашысцкія газавыя камэры, якія яны рабілі ў грузавіках, і вяла пасьміхаючыся з сальных дарослых жартаў...

Пасьля рэканструкцыі аўтастанцыя выглядае вельмі прыстойна. Не пасьпяваем мы як сьлед агледзець будынак звонку, як на "опэлі" *Vectra* (сам за рулём) пад'яжджае міністар транспарту Міхаіл Баравы, які жыве побач, у вёсцы пад Фаніпалем. Выходзіць, вітаецца. Міністар таксама пакідае станоўчае ўражаньне — падцягнуты, па-эўрапейску апранаецца і, кажуць, зусім ня п'е. Разам з чыноўнікамі і журналістамі Баравы падыходзіць да месьцічаў. "Дзякуй за чыстыя вуліцы!", "Дзякуй за прыгожую аўтастанцыю!" — вітаюць яго людзі. Мужык з цыгаркай у зубах, што стаіць за іхнымі сьпінамі, прытуліўшыся плячом да аўтобуса "Дзяржынск — В.Сяло", хітае галавой: "Ну і паказуха!". На пытаньне, ці здымаюць аўтобусы з рэйсаў у час пасяўной, ён упэўнена адказвае: "А як жа!".

Міністар пераразае стужку. Мы ўваходзім ва ўтульны аднапавярховы белы будынак аўтастанцыі, накрыты мэталадахоўкай, дзе пахне фарбай і ветліва пасьміхаюцца дыспэтчаркі. Прыемныя колеры, кафля, падвесная столь. На аўтастанцыі аднавілі сваю працу цырульня, прадуктовая крама, ёсьць пакой маці і дзіцяці, дзевяць камэраў захоўваньня, стэнды з падрабязнай інфармацыяй. У хуткім часе тут плянуецца ўсталяваць таксафон і аптэчны шапік.

Рэканструкцыя аўтастанцыі, па словах чыноўнікаў, абышлася ў 84 мільёны беларускіх рублёў. Новы аўтобус айчыннай вытворчасьці каштуе 100 тысячаў даляраў. Атрымліваецца, што аднаўлены будынак з усім начыненьнем "пацягнуў" усяго на паўаўтобуса. Пасьля адкрыцьця міністар запрасіў журналістаў на прэс-канфэрэнцыю. Сядаючы ў аўтобус, адзін з маіх калегаў, які шукаў у будынку прыбіральню і не знайшоў, прабурчаў: "На эўрарамонт грошай хапіла, а прыбіральня на двары!"

На прэс-канфэрэнцыі чыноўніцтва распавядала пра праблемы грамадзкага аўтатранспарту. Гэта і вялікая колькасьць ільготнікаў (5,3 мільёна беларусаў маюць разнастайныя льготы на праезд у аўтобусах), і зношанасьць аўтобусаў, і адсутнасьць сродкаў на эксплюатацыйныя выдаткі. Аўтапрадпрыемствы стратныя, грошай хапае толькі на паліва і заробкі. Транспартны збор ідзе ў абласныя бюджэты, а адтуль транспартнікі атрымліваюць капейкі. Шмат праблемаў і з пасажыраперавозкамі ў сельскай мясцовасьці. Тут адзіная надзея — камэрцыйныя рэйсы.

Пасьля сканчэньня прэс-канфэрэнцыі журналісты селі ў амаль пусты камфартабэльны МАЗ-152 і паўз помнік Дзяржынскаму насупраць райвыканкаму і Леніну — на цэнтральнай плошчы паехалі ў Менск рабіць матэрыялы.

## Як у іншых?

# Прыватны "казённы дом"

Прыватныя турмы ў Вялікай Брытаніі былі скасаваныя турэмнай рэформай 1878 г., і аж да пачатку 90-х XX ст. усе астрогі знаходзіліся ў руках дзяржавы. Аднак пасьля таго як зьняволеныя, незадаволеныя ўмовамі ўтрыманьня, цеснатой ды маральным гвалтам з боку аховы, немагчымасьцю працягваць у турме адукацыю, пачалі бунтаваць, брытанскія ўлады вырашылі вярнуцца да практыкі прыватных турмаў.

Першая — Волдз, разьлічаная на 300 месцаў, была прыватызаваная ў 1991 г. Цяпер у Вялікай Брытаніі кожная дзясятая турма — недзяржаўная.

У сярэднім кожны зьняволены каштуе дзяржаве 24 тысячы фунтаў у год, а прыватнай турме — 14 тысяч, бо яна, як звычайнае прадпрыемства, зарыентаваная на прыбытак і ўмее ашчаджаць.

Дый умовы там не параўнаць з "казёнымі": у прыватнай турме ў Блэйкенхэрсьце, напрыклад, у кожнай камэры — прыбіральня і душ. Прычым зьняволены можа замыкацца зь сярэдзіны калі хоча і на колькі захоча. Сталаваньне — як у рэстарацыі: улічваюцца нават вэгетарыянскія схільнасьці зьняволеных.

У ЗША за кратамі зараз сядзіць 1 млн. 800 тыс. чалавек. Прычым "зэкаў" штогод робіцца на 50 тысяч болей. У некаторых штатах турмы перапоўненыя на 80%. Як падлічылі ў Пэнітэнцыярнай асацыяцыі Амэрыкі, на новыя турэмныя месцы й іхнае ўтрыманьне амэрыканскія падаткаплацельшчыкі мусяць выдаткаваць аж 10 млрд. даляраў. Таму стварэньне прыватных турмаў дзяржава толькі вітае. Тым больш што заможныя асуджаныя гатовыя плаціць за турэмныя выгоды і паслугі. У ЗША першая прыватная вязьніца зьявілася раней, чым у Ангельшчыне, — у 1984 г.

Турэмны бізнэс вельмі прыбытковы. Напрыклад, кампанія *CCA*, якая валодае паловай прыватных вязьніцаў Амэрыкі, штогод мае болей як 400 млн. даляраў даходу.

Што праўда, праваабаронцы моцна крытыкуюць прыватныя турмы, даводзячы, што апошнія парушаюць роўнасьць правоў грамадзянаў: маўляў, адзін раскашуе ў камэры з душам, а другі пакутуе ў дзяржаўнай турме. Яшчэ кажуць, што "прыватны" зьняволены мае ў параўнаньні зь "дзяржаўным" меней шанцаў выйсьці з-за кратаў датэрмінова: гаспадарам прыватных турмаў гэта нявыгадна.

**І.Ч.**



**Андрей Заерко. *История белорусских советских тюрем. Тюрьмы Беларуси.* Кн. I. 1929—1935. — Масква, 2001.**

# Кніга пра турмы

Нарэшце гісторыкі дайшлі да такой цяжкой тэмы беларускай гісторыі, як турмы. Прычым падышлі да яе з супрацьлеглых бакоў. Адны пішуць паводле казённых дакумэнтаў і для абмежаванага кола казённых чытачоў, другія — паводле згадак жывых сьведкаў і для ўсіх тых, каму гэта баліць. Зь ліку апошніх — Андрэй Заерка.

Чаму 1929—1935 гады? Абазнаны чытач скажа: ад пачатку вялікіх палітычных рэпрэсіяў ("вялікага пералому") да пачатку яшчэ больш значнай кампаніі рэпрэсіяў. Першае дзесяцігодзьдзе беларускай савецкай турмы, відаць, выпала таму, што аўтар грунтуецца на апытаньні жывых сьведкаў: тыя, хто "сядзеў" да 1929 г., даўно адышлі.

Аўтар не ўстрымаўся ад экскурсаў у даўнейшыя часы, аж да эпохі Вялікага Княства Літоўскага. Праўда, пачуваецца ён там ня дужа ўпэўнена. Меркаваньне, што ў сярэднявечнай Беларусі турэмнае зьняволеньне ня мела разьмежавальнага характару паводле родаў зьдзейсненых злачынстваў, не зусім слушнае. Як вядома, саджалі тады або ў вежу (больш "камфортнае" зьняволеньне), або ў лёхі — у залежнасьці ад учынку й сацыяльнага статусу злодзея.

Не абышоў увагай Андрэй Заерка і беларускія турмы часоў Расейскай Імпэрыі, нават праілюстраваў іх чарцяжамі ўзорных астрогаў. Аўтар ацэньвае іх з пэўнай сымпатыяй, піша пра "праблёскі гуманізму" ў адносінах да пакараных. У параўнаньні з савецкімі турмамі царскія выглядаюць увогуле як месца адпачынку, хай сабе і вымушанага. Увогуле параўнаньню царскай і бальшавіцкай турмы аўтар адвёў так многа месца, што міжволі згадваюцца адпаведныя месцы з працаў Салжаніцына.

Андрэй Заерка піша не "палітычную", а хутчэй "унутраную" гісторыю беларускай турмы. І разьдзелы адпаведныя: пра прыёмнае аддзяленьне, рэжым, турэмную працу, "пайку", перадачы, спатканьні, бальніцу, лазьню, лярок, "камэру сьмерці", сьмяротнае пакараньне, пратэсты, "вохру". Кніга прысьвечаная ў асноўным палітычным зьняволеным — пра крымінальнікаў толькі адзін разьдзел.

Больш чым на палову кніга складзеная са сьведчаньняў ахвяраў рэжыму, "зьнятых" проста з магнітафоннай стужкі з усімі асаблівасьцямі і хібамі вуснай гаворкі. У жывых галасах людзей зьберагаюцца ня толькі драбніцы турэмнага побыту, але і сам подых часу ўсеагульнага тэрору. Ёсьць неаднаразовыя сьведчаньні пра расстрэлы ў менскім Камароўскім лесе. Курапаты таксама згадваюцца, але відавочна, што гэта ўжо вынік азнаямленьня сьведкаў з апублікаванымі матэрыяламі пра тую сумную мясьціну.

Паводле прыблізных падлікаў аўтара, за 1930—35 гады ў Беларусі было замардавана блізу 6200 палітычных зьняволеных.

Аўтар акцэнтуе ўвагу на тым, што палітвязьні БССР у адрозьненьне ад сваіх таварышаў па няволі з царскіх турмаў выявіліся няздольнымі на суполныя акцыі пратэсту. За ўвесь пэрыяд Заерка здолеў адшукаць толькі адзін факт масавай галадоўкі — у 1930 г. у Гомельскай турме. Падняволеньне жыцьцё ў БССР не нарадзіла адпаведных турэмных песень (а гэта таксама форма пратэсту!). А да сярэдзіны 30-х адміністрацыя адмовілася нават ад "партыйна-выхаваўчай працы" сярод вязьняў, зачыняла бібліятэкі — усе наіўныя чэкісцкія сілы і памкненьні ішлі на "абслугоўваньне" новых хваляў зьняволеных.

У кнізе шмат фатаздымкаў былых вязьняў, сьведчаньнямі якіх аўтар карыстаўся. Шкада, што няма іхных біяграмаў, нават зьвестак, па якіх артыкулах яны "сядзелі". Слоўнічак зладзейскага жаргону пры канцы кнігі недарэчы, бо ў аповедах сьведкаў тых словаў няма — яны ж не крымінальнікі! Каштоўны матэрыял — фатаздымкі турэмных будынкаў 1920—30-х, якія ацалелі да нашага часу. Гэта ўжо помнікі гісторыі.

**Валеры Пазьнякоў**

# Ад Макаля да Разанава

**Гэтымі днямі выйшаў № 11—12 (71) часопісу "Крыніца". Там у рубрыцы "Наша" друкуюцца артыкулы, нататкі й зацемкі больш як дзесяці аўтараў пра філялягічнае пакаленьне — пісьменьнікаў, якія прыйшлі ў беларускую літаратуру ў пэрыяд ад сьмерці Сталіна да пачатку "застою". Ня ўсе матэрыялы, прызначаныя для гэтага нумару "Крыніцы", надрукаваныя ў часопісе. Так сталася з артыкулам Анатоля Сідарэвіча. Аўтару настойліва параілі зрабіць у ім праўкі пэўнага характару. Ён адмовіўся і прапанаваў артыкул для надрукаваньня ў "НН".**

Анатоль Сідарэвіч

Ім пашанцавала. У сталасьць (фізыялягічную, сацыяльную) яны ўступалі тады, калі сыстэма ўжо перанасыцілася крывёю "варожых элемэнтаў" і "будаўнікоў новага сьвету", калі стомленая ад "чыстак", "гучных справаў" і "ўсяночных" на службе бюракратыя жадала стабільнасьці й упэўненасьці ў заўтрашнім дні. На пачатку сакавіка 1953 г. паплечнікі і вучні пакінулі неаднаразова атакаванага інсультамі галоўнага і нястомнага забойцу без мэдычнае дапамогі.

Ратуючы свае скуры, яны выратавалі й беларускую літаратуру. "Вялікі друг савецкіх пісьменьнікаў" выдатна ведаў, што на розных дзялянках неаглядных абшараў СССР час ад часу трэба ўчыняць "праполку". У Беларусі, думаю, пачалі б з заходнікаў — з Максіма Танка (паходзіць з заможнае сям'і, меў сувязі з "выкрытымі" "агентамі дэфэнзывы" ў КПЗБ і КСМЗБ, з "ворагамі народу" Антонам Луцкевічам, Натальляй Арсеньневай ды інш.), зь Янкі Брыля (паходзіць з заможнае сям'і, друкаваўся ў часопісе, які рэдагаваў "вораг народу" Язэп Найдзюк, не ўступаў у камсамол, ладзіў аматарскія спэктаклі паводле п'есаў "ворага народу" Максіма Гарэцкага, быў у нямецкім палоне, брат "выкрытага ворага народу" і папа)... Нездарма ж Іван Клімаў, камісар Віленскага краю пры "першых саветах", па вайнеківаў пальцам у бок паэта і ўголас казаў, што ён да "гэтага цыбатага" шчэ дабярэцца; нездарма Лукаш Бэндэ казаў празаіку: "Вы на каком языке пишете? Я до вас еще доберусь"... Пасьля заходнікаў дабраліся б да ўсходнікаў. Не да запалоханых аскепкаў "Узвышша", БелАППу ды "Полымя", а да тых, што нарасьлі пасьля вялікага тэрору, падчас і адразу па другой сусьветнай вайне. Колькі іх было, тых пісьменьнікаў? І пяці дзясяткаў не набіралася. Але Сталін ведаў практыку асырыйскага цара Саргана II: калі ўвесь народ нельга расьцерушыць па абшары імпэрыі, трэба пазбавіць яго эліты (інтэлектуалаў, военачальнікаў, адміністратараў), трэба даць яму сваю эліту, і тады зямля Ізраільская назавецца Самарыяй, а сыны Ізраілевы — самарыцянамі, якія пакланяюцца паганскім багам. Аднак у адпаведнасьці з законам прыроды насельніцтва кожнай тэрыторыі цягам часу стварае новую эліту. І галоўны кат ведаў досьвед дэспатаў, якія праводзілі "праполку" гэтых элітаў і свайго атачэньня пасьлядоўна, з пэўнай пэрыядычнасьцю. На шчасьце — наша і нашае інтэлігенцыі — тыраны таксама падуладныя законам прыроды, у тым ліку старэньню. Сыстэма насыцілася крывёю, а бюракратыі хацелася сытае стабільнасьці...

Здаецца, найлепш пра першую пару гэтага пакаленьня пісаў Міхась Стральцоў: "*Недзе на трэцім курсе я адпусьціў доўгія валасы — тады гэта было модна. І падняў каўнер курткі — гэта таксама, здаецца, лічылася, што няблага. Тады катастрафічна, увачавідкі вузелі ў хлопцаў штаны, затое так прасторна было плячам пад шырачэзнымі пінжакамі. Праўда, гэта ўжо мяне не датычыла. Доўгія валасы — няблага. І падняць каўнер — таксама. Я чытаў тады французскія раманы. Эміль Бляндэ, Люсьен Рубампрэ... Галянтны век, дасьціпнасьць. І скепсыс. "Страчаныя ілюзіі". Партрэт "бацькі ўсіх народаў" пыліўся ў інтэрнацкай шафе-кладоўцы.* "Как мало пройдено дорог, как много сделано ошибок". *Не было саладзейшай спакусы, чым журба. Я чытаў тады замежныя раманы*".



**Беларускія пісьменьнікі на Магілеўскім камбінаце сынтэтычнага валакна імя У.І.Леніна. Сярод іх: Анатоль Вярцінскі, Анатоль Грачанікаў, Сьцяпан Гаўрусёў.**

Аднак пазьней многія "філёлягі", кіруючыся жыцьцёвым прагматызмам ды цьвярозым разьлікам, зьдзьмулі пыл з партрэту "бацькі народаў" і з партыйных сьцягоў. Хоць былі й такія, хто, нягледзячы на французскія раманы і сталінскія чысткі, захаваў шчырую веру ў "сьветлыя ідэалы". Прыкладам, Сьцяпан Гаўрусёў, які з ласкі генсека трапіў пад акупацыю ды "вырас пад гарматнымі ствaламі", мог прасіць свайго амаль раўналетка Валянціна Тараса: "Сталіна не чапай!". У 80-х мог напісаць і прынесьці ў "ЛіМ" верш з рэфрэнам "Слава КПСС! Слава КПСС!", і нам, супрацоўнікам рэдакцыі, нічога не заставалася, як, паціснуўшы плячыма, аддаць тыя радкі ў друк. Гаўрусёў быў не адзін гэткі. Пры жаданьні можна было б скласьці анталёгію "Філялягічнае пакаленьне пра партыю, Леніна ды Сталіна". Там быў бы і верш юнага Стральцова пра генэралісімуса, і твор ужо нібыта сталага чалавека пра дзьверы — "звычайныя, філянковыя, як ва Ўладзімера Ільліча", — і паэма пра тое, як Ленін думае пра Беларусь... Нават у сатырычнай паэме пра Лысую гару аўтар не ўтрымаўся, каб не запэўніць "родную партыю" ў ляяльнасьці, што як найлепш характарызуе беларускую падсавецкую літаратуру.

Многія "дзеці XX зьезду" вельмі хутка засвоілі правілы гульні і з "франдзёраў", што займалі задні лавы на пісьменьніцкіх сходах ды галёкалі падчас выступаў старэйшых, ператварыліся ў чыноўнікаў сыстэмы. Крытыкавалі ў маладосьці старшыню СП БССР Петруся Броўку, а як дарваліся да стырна пасьля эпохі славутага сакратарыяту Саюзу пісьменьнікаў (Максім Танк, Янка Брыль, Іван Мележ, Пімен Панчанка, Іван Шамякін), самі сталі капіяваць мэтады працы Пятра Ўсьцінавіча. Калі Броўка, карыстаючыся магчымасьцю разьмяркоўваць кватэры ды ўплываць на выдавецкую палітыку, адкрыта патрабаваў сабе панэгірыкаў (напрыклад, ад Алеся Адамовіча ці Рыгора Бярозкіна), дык ягоныя наступнікі і пасьлядоўнікі рабілі гэта больш далікатна, цішком. Дзеля кватэраў, накладаў і іншых выгодаў перад імі прагіналіся нават разумныя, таленавітыя людзі. Тэма карупцыі ў СП БССР (хабар бралі звычайна вусным і друкаваным словам, а пратэкцыю складалі хабарадаўцам і "патрэбным людзям") яшчэ чакае свайго дасьледчыка (а мо калі ў чыіхсьці дзёньніках ці ўспамінах будзе раскрытая). А тыя "філёлягі", якія не былі ў кіраўніцтве СП і не сядзелі ў рэдактарскіх крэслах, мелі "апекуноў" у ЦК ці ў тым самым кіраўніцтве Саюзу пісьменьнікаў. Пасьля званкоў адтуль даводзілася здымаць з газэтных палосаў рэцэнзіі й артыкулы ды засылаць у друкарню новыя матэрыялы. Дзякуючы "апекунам" можна было, паціснуўшы, прыкладам, Караткевіча, і дзяржпрэмію атрымаць...

У іх была свая мова, свае слоганы. Самы знакаміты — "Пара й нашаму пакаленьню ўзьбівацца на добрую капейку" — умэнт абляцеў стольны Менск. Сьледам за Лыньковым і Мележам ды абляўрэачанымі чакоўскімі-стаднюкамі яны пачалі пісаць свае "апупеі", бо ад папярэднікаў засвоілі, што вялікая тэма патрабуе "вялікага жанру". Пішучы свае "буйнафарматныя", "буйнаблёчныя" (словы Міхася Стральцова) творы, аўтары "апупеяў" насамрэч эксплюатавалі тэму "гераізму савецкага народу ў вялікай айчыннай вайне", "гналі лістаж". Аўтары "палотнаў" выдатна ведалі, што ніхто ня дасьць ім сказаць праўду пра вайну. Як у аптэцы, яны дазавалі "нэгатыў" (асобныя выпадкі супрацоўніцтва савецкіх грамадзян з акупантамі) і "пазытыў" (усенародная барацьба), не забываючыся падкрэсьліць "кіруючую і накіроўваючую" ролю камуністычнае партыі, а ў выніку атрымлівалася "эпіка-нудная проза" (словы зноў жа стральцоўскія).

У "ваенна-патрыятычнай літаратуры" сьведкі вайны і яе ўдзельнікі не пазнавалі тае самае вайны. Бо насамрэч "...вайна — не сапраўдны подзьвіг, вайна — гэта сурагат подзьвігу. (...) Вайна — хвароба. Накшталт тыфу". Гэтыя словы належаць удзельніку вайны. Менавіта ўдзельнікі вайны ратавалі эпічную "ваенную прозу". Алесь Адамовіч, Янка Брыль, Васіль Быкаў, Уладзімер Калеснік... Гэта яны сказалі пра вогненныя вёскі, праклятыя вышыні, круглянскія масты, гіпэрбарэяў...

Пісьменьнікі з філялягічнага пакаленьня большага посьпеху дасягалі ў "малых жанрах", калі пісалі пра тое, што перажылі самі, што было часткаю асабістага досьведу, калі апавядалі аб драмах і трагедыях "кропляў хваляў": пра хлопчыка, які стаў сіратою на чацьвертым годзе вайны, і пра другога хлопчыка, якому перадалі закарэлую палку — адзнаку таго, што прыйшла ягоная чарга быць солтысам і адказваць за лёс аднавяскоўцаў, і пра тых, хто ішоў "за сто кілямэтраў на абед", і пра хлопчыкаў з эфкаю, і пра Тартак... У "малых жанрах" яны маглі шчасьліва пазьбягаць неабходнасьці падганяць праўду жыцьця, праўду пражытага пад афіцыйную "вялікую праўду".

Яны маглі сказаць: "Усе мы з хат". Пакаленьню радасьцю вялікаю была цішыня. "Пад крылом цішыні" яно дарастала і кіравалася ў горад, каб стаць "сенам на асфальце", імкнуцца туды, дзе "зацішак, спакой", але, ня могучы фізычна вярнуцца да вытокаў, заклінаць сябе: "Трэба дома бываць часьцей, трэба дома бываць ня госьцем..."

Яно парадаксальнае, гэтае пакаленьне. Алесь Адамовіч, пішучы баявыя артыкулы пра ўзорна-паказальныя творы сацрэалізму, расчышчаў "філёлягам" пляцоўку для творчасьці, а яны, ня здолеўшы задаволіць патрабаваньні крытыка, прад'яўлялі прэтэнзіі да Адамовіча, чынілі яму абструкцыю, у штыхі ўспрымалі ягоныя спробы літаратурнае кампаратывістыкі: хацелі супэрлятыву без кампаратыву. Сёй-той зь "філёлягаў" хутка засвоіў тэрміналёгію "Броўкавай эпохі" і крытыку сваіх твораў абзываў нігілізмам (г.зн. крытыкуючы іхнія опусы, ты адмаўляеш ці ня ўсю беларускую літаратару). Крытыку яны нярэдка ўспрымалі як сіяніскія падкопы ды шукалі сэміцкіх продкаў у сваіх апанэнтаў (у таго ж Адамовіча), але былі радыя пачуць ухвальнае слова ад сэміта Бярозкіна або ад сэміта Алеся Кучара, які быў здаў Бярозкіна ў НКВД.

Бачачы, як звужаецца сфэра ўжываньня беларускае мовы, ведаючы, што ў эпоху ТБ колькасьць чытачоў і, адпаведна, уплыў літаратуры на грамадзкую сьвядомасьць звужаецца, яны марылі й мараць пра званьне народнага пісьменьніка (паэта), млеюць, калі нехта назаве кагосьці зь іх прарокам, а то й апосталам. Бадай усе клянуцца ў вернасьці Купалу ды называюць сябе ягонымі пасьлядоўнікамі, але ніхто ня супраць атрымаць аднолькавае зь ім званьне. (Калі мне кажуць, што адна з рысаў беларускага нацыянальнага характару — сьціпласьць, я адказваю: "Мяркуючы па беларускіх пісьменьніках, гэта няпраўда").

Хтосьці зь іх дэбютаваў раней, хтосьці пазьней. Пятрусь Макаль (ён, як і Данута Бічэль, скончыў Гарадзенскі пэдінстытут імя Янкі Купалы) выдаў кніжку ў 1955 г., а маладзейшы за яго на тры гады Васіль Зуёнак — у 1966 г. Магчыма, я надта суб'ектыўны, але я чытаў усе першыя кнігі "філёлягаў" і магу сказаць, што ня кожны першы зборнік сьведчыў пра прыход у літаратуру *асобы*. "Песьняю пра хлеб" (1962) Анатоль Вярцінскі зрабіў добрую заяўку, але тое, што ў беларускую прыйшоў паэт зь "*лица не общим выраженьем*", пацьвердзілі толькі "Тры цішыні" (1966). І для Бураўкіна атэстатам стала другая кніга ("Зь любоўю і нянавісьцю зямною" 1963), а ня "Майская просінь" (1960). Янка Сіпакоў таксама ўразіў аматараў паэзіі другім зборнікам ("Лірычны вырай", 1965). Па-першае, рэабілітаваў сам жанр кнігі лірыкі, па-другое, сярод першых сьледам за Максімам Танкам пачаў рэабілітаваць нерэгулярны верш. (Потым мы будзем з увагаю гартаць "Лісьце травы" Ўолта Ўітмэна ў перакладзе Сіпакова.) З празаікаў першы ў гэтым пакаленьні сваю кніжку надрукаваў Вячаслаў Адамчык, але сталы пісьменьнік у ім адчуўся толькі пасьля другога зборніка "Міг бліскавіцы" (1960). У 1959 г. выйшла кніга Івана Пташнікава "Зерне падае не на камень", але сапраўднымі зьявамі літаратуры сталіся "Алёшка", "Алені", "Бежанка" (1962), "Лонва" (1965)... Добра чыталася першая кніжка Міхася Стральцова "Блакітны вецер" (1962), але знакаваю кнігаю пакаленьня стаўся зборнік "Сена на асфальце" (1966). У 1962 г. першы свой зборнік выпусціў і Барыс Сачанка, але літаратурнаю падзеяй сталі ягоныя аповесьці "Пакуль не разьвіднела" (1965) і "Апошнія і першыя" (1966).

У параўнаньні з папярэднікамі гэтае пакаленьне мела добрыя стартавыя магчымасьці (ужо не было пагрозы хапуну, у літаратуру вярталіся людзі, імёны і творы, у бібліятэках можна было чытаць "Маладняк" і "Ўзвышша", зборнікі 20-х). А што папярэднікі? Ваеннае пакаленьне было апошняю генэрацыяй з жывымі клясыкамі — Максімам Танкам, Аркадзем Куляшовым, Піменам Панчанкам, Іванам Мележам, Янкам Брылём, Васілём Быкавым. Калі прыйшло філялягічнае пакаленьне, ужо былі артыкулы Адамовіча, Брылёва аповесьць "На Быстранцы", ягоныя ж "Маці", "Memento mori", "Надпіс на зрубе", "Мой Чэхаў" і інш., Танкаў зборнік "Сьлед бліскавіцы" (на падыходзе быў "Мой хлеб надзённы"); Куляшоў пісаў верш за вершам для "Новае кнігі", а Панчанка — для "Тысячы небасхілаў", Мележ нечакана для ўсіх "стрэліў" "Людзьмі на балоце" (1961), з другой палавіны 50-х пачалося ўзыходжаньне Васіля Быкава...

"Філёлягам" не давялося быць першапачынальнікамі і першаадкрывальнікамі. Дыялектызмам дарогу ў літаратуру адчыніў Іван Мележ, арыгінальную кампазыцыю раману прадэманстраваў Янка Брыль. А згадаем Дубоўку, Куляшова... Маладзейшыя маглі працягваць традыцыі й працягвалі іх. Нават ува Ўладзімера Караткевіча меліся папярэднікі (прыкладам, даступны "з-пад крыса" Вацлаў Ластоўскі ды рэабілітаваны Язэп Дыла). Можна было б сказаць, што гэта вельмі традыцыйнае пакаленьне, якое граніла і шліфавала мову верша й апавяданьня. Гэтаму пакаленьню разам са старэйшымі было наканавана выканаць тое, чаго не змаглі — не пасьпелі — зрабіць узвышаўцы: стварыць літаратуру, якую можна вывесьці ў сьвет.

Гэтае пакаленне іншы раз, чыста храналягічна, называюць шасьцідзясятнікамі. Такая назва глыбока памылковая. Шасьцідзясятнікі — інтэлектуальная, палітычная, грамадзкая генэрацыя, якая склалася ў Расеі. Сярод іх партыйныя інтэлектуалы, "праўдзісты" і "ізьвесьцінцы" Лен Карпінскі, Генадзь Лісічкін, Барыс Арлоў, Фёдар Бурлацкі, Юры Чарнічэнка, Ягор Якаўлеў і інш., якіх пры Брэжневе звольнілі з працы. Гэта, у прыватнасьці, і крытык Ігар Дзядкоў, высланы з Масквы ў Кастра-

*Яны маглі сказаць: "Усе мы з хат". Пакаленьню радасьцю вялікаю была цішыня. "Пад крылом цішыні" яно дарастала і кіравалася ў горад, каб стаць "сенам на асфальце", імкнуцца туды, дзе "зацішак, спакой", але, ня могучы фізычна вярнуцца да вытокаў, заклінаць сябе: "Трэба дома бываць часьцей, трэба дома бываць ня госьцем..."*

му. Да гэтага кола зь беларусаў прымыкаў толькі адзін Алесь Адамовіч. Амаль усе яны сталі "прарабамі перастройкі", яе вядучымі публіцыстамі. Да шасьцідзясятнікаў адносяць і ўкраінскіх дысыдэнтаў — Васіля Стуса, Вячаслава Чарнавіла, Анатоля Марчанку ды інш. У беларусаў "палітыкаў" амаль не было, калі не лічыць мала каму вядомага Міхася Кукабаку ды мэдыка Алеся Наўроцкага, які пратэставаў супраць выкарыстаньня псыхіятрыі ў палітычных мэтах, а таксама самых малодшых "філёлягаў" Алеся Разанава ды Віктара Яраца, якія наважыліся публічна бараніць правы беларускае мовы. Тыповыя прадстаўнікі гэтага пакаленьня не адважваліся змагацца настойліва-публічна. Паміж камфортам і побытавай неўладкаванасьцю дысыдэнта яны абралі камфорт. У найбольш слынных з гэтага пакаленьня было тры мары: званьне "народнага", дэпутацтва й сяброўства ў ЦК КПБ. У літаратурны фальклёр увайшла гісторыя пра тое, як адзін літаратар угаворваў цяжкахворага паэта-дэпутата-земляка, каб той пахадайнічаў у ЦК аб перадачы мандату ў спадчыну яму, маладзейшаму. У 1990 г., калі за месца ў Вярхоўным Савеце БССР дзе-нідзе ўжо змагаліся, а не траплялі па разнарадцы ЦК, канкурэнцыю вытрымалі толькі Анатоль Вярцінскі ды значна маладзейшы Лявон Баршчэўскі (у Вярхоўнай Радзе Ўкраіны ў той час засядала каля двух дзясяткаў пісьменьнікаў). Затое ў нас два пісьменьнікі-"філёлягі" з радасьцю пайшлі ў ЦК партыі, якая ўжо дыхала на ладан.

Гледзячы на гэтае пакаленьне, я выпрацаваў для сябе панятак "філялягічная абмежаванасьць", бо гэтая генэрацыя стаяла вельмі далёка ад філязофскае, паліталягічнае, багаслоўскае, рэлігіязнаўчае думкі (выключэньні надзвычай рэдкія). Ніколі не забуду, як я чырванеў перад нашым выдатным лацінітам, нябожчыкам Якавам Парэцкім, калі разам зь ім ня змог давесьці супрацоўнікам "Полымя", чаму мэтазгодна было б апублікаваць ягоны артыкул пра перапіску Сымона Буднага. Замест гэтага артыкулу часопіс надрукаваў нейкі шэранькі нарыс...

Кажучы "філялягічная абмежаванасьць", я зусім не хачу сказаць, што значныя прабелы ў іншых гуманітарных навуках кампэнсаваліся глыбокімі філялягічнымі ведамі. Я не сустракаў сярод іх знаўцаў моваў. Дзе перакладчыкі ўзроўню Дубоўкі, Гаўрука, Семяжона? Васіля Сёмуху і Ніну Мацяш вучыў не філфак, а Анатоль Клышка са старажытнагрэцкай ды Алесь Разанаў зь літоўскай выглядаюць сярод іх як белыя вароны. Нават былыя аднакурсьнікі пісьменьнікаў-"філёлягаў" — дактары й кандыдаты філялягічных навук зь лінгвістыкі — звычайна ня ведаюць як сьлед ніводнае старажытнае, ніводнае германскае ці раманскае мовы. Філялягічным гэтае пакаленьне назвалі таму, што пісьменьнікі, якім цяпер ня менш за 53 і ня больш як 71, вучыліся пераважна на філфаку БДУ, зь якога яшчэ ня вылучылі журфак (студэнты філязофіі звалі яго дурфакам).

Амаль усе "філёлягі" ідэалізавалі вёску, абвяшчалі яе крыніцаю духоўнасьці, але адмоўчваліся ў адказ на прапановы вярнуцца ў вёску ды жыць там (бадай, адзінае выключэньне — Уладзімер Верамейчык). А тым часам у вёсках Беларусі вялася *дзяльба кабанчыка*, у маленькай хатцы жыла-бедавала з сабакам Сіўчыкам, коткаю Буркаю ды дзьвюма — рабою ды белаю — курыцамі *Сямёнаўна*, а Федзя вёз сваю маці Анэту са слуцкае вёскі ў Менск. Ці супакоілася Анэта ў сынавай кватэры? А хто застаўся пад канец стагодзьдзя ў той вёсцы, у якую Іван Купец езьдзіў на *Раданіцу*?

Філялягічнае пакаленьне было апошнім вясковым пакаленьнем у нашай літаратуры. У той час як некаторыя "філёлягі" нылі аб страчанай "духоўнасьці", Алесь Адамовіч пісаў пра "трэцяе пакаленьне": былі вяскоўцы, якія выпіхалі сваіх дзяцей у горад (вясковая Атлянтыда), ёсьць "прамежкавыя людзі" (тэрмін Анатоля Казловіча), якія саромеюцца сваёй вясковасьці, яшчэ не гараджане, а за імі ідзе трэцяе пакаленьне. І вось перада мною "Анталёгія маладога верша" (Менск, 2001). Больш за 40 аўтараў гэтага зборніка паходзяць з гарадоў, астатнія 20 зь лішкам — зь вёсак. У прозе, дайце веры, тая ж тэндэнцыя. У правы ўступіла "трэцяе пакаленьне". Літаратура ня зьнікла. Духоўнасьць — таксама.

Цяпер у беларускай літаратуры працуюць тры пакаленьні: тыя, хто прайшоў вайну, "філёлягі" і "трэцяе пакаленьне" (ад "тутэйшых" да Бум-бам-літу).

Калі выходзілі другія кнігі Вярцінскага і Стральцова, на філфак БДУ паступілі Разанаў, Янішчыц і Ярац (Алесь Жук зь Сяргеем Законьнікавым, здаецца, ужо вучыліся там). Гэта быў апошні прызыў філялягічнага пакаленьня. Грамадзянская й творчая практыка генэрацыі ўжо будзіла незадавальненьне. Калі за грамадзянскую актыўнасьць Разанава адлічылі з БДУ, а філфак на доўгія гады ўзначаліў прадстаўнік катэдры гісторыі КПСС з калярытным прозьвішчам Воўк, калі ад філфаку аддзялілі журфак, гэта ўжо азначала, што час філялягічнага пакаленьня скончыўся. Яно пачало таптацца на месцы. Адны, каб "узьбіцца на добрую капейку", заняліся "апупеямі", а другія, каб не сумаваць, пачалі, як заўважыў Рыгор Семашкевіч, гнаць неабавязковыя радкі ды вершы. Традыцыйная літаратура губляла пэрспэктыву. І тады былы жаўнер Савецкай Арміі Разанаў прапанаваў "Каардынаты быцьця", а за імі "Шлях—360".

Не скажу, што Разанаў быў абсалютны наватар (сёе-тое ўжо мецілася ў творчасьці Максіма Багдановіча, Ігната Канчэўскага ды Максіма Танка), але гэта быў выклік. І спатрэбіліся рэцэнзіі двух філёзафаў (нездарма Алесь у адрозьненьне ад іншых "філёлягаў" у БДУ філязофскія ксёнжачкі чытаў), аднаго філёляга, прадмова Пімена Панчанкі і пасьляслоўе Варлена Бечыка, каб "Шлях—360" убачыў сьвет. А яшчэ быў у Алеся рэдактар — Уладзімер Караткевіч (спытаўся ў аўтара: "Што я павінен напісаць, каб кніжка выйшла ў сьвет?").

Паэзія Разанава нарадзілася з пратэсту. І апору ён знаходзіў ня толькі ў гісторыі айчыннае літаратуры. Паэзія гаманіла новаю моваю таксама ў Польшчы, Латвіі і Літве. І беларуская літаратура, каб ня быць змушанаю зноў даганяць Эўропу, павінна была "засьпяваць" зь ёю ва ўнісон.

Філялягічнае пакаленьне спарадзіла ў сваім асяродку такога паэта — і гэтым яно сказала сваё апошняе слова. Чакаць ад яго нейкіх новых "вышынных дасягненьняў" ужо не выпадала.



**Анатоль Сідарэвіч — філёзаф, літаратуразнаўца. Адзін з пачынальнікаў беларускай палітычнай апазыцыі ў 80-я. Супрацоўнік часопісу "Крыніца".**

# Як развалілі Савецкі Саюз

## Алесь Чобат

**Неяк гадоў пятнаццаць таму, калі не было яшчэ ніякіх нацыяналістаў, трапіў я ў фабрычную камандзіроўку ў адзін заштатны райцэнтар за Тулай. Ехаў па адно, а вярнуўся з другім. Бо галоўны інжынэр тамтэйшай фабрыкі нечакана прапанаваў... купіць у яго ажно цэлы цэх.**

### I

Цэх прадукаваў крэм для абутку. Добры тавар, бо палову прадукцыі з гарантыяй купляла армія, а цэх быў манапалістам ад Бугу да Іртышу.

Плюс — цэх вырабляў да таго крэму алюміневыя тубы. Для таго меў дзьве аўтаматызаваныя лініі вугорскай работы ды нямецкага праекту.

Я схапіўся за гэтую прапанову, і пачалі мы з галоўным інжынэрам спакойны гандаль. За дзьве ўнікальныя лініі габарытамі чатыры мэтры ўшыркі, восем увышкі і трыццаць шэсьць удоўжкі нашая фірма мела заплаціць... менш за мільён савецкіх рублёў. Гэта ня грошы. Гэта сьмеху варта. На дадатак мы забіралі ўсе катлы, прэсы, штамы, тэрмапластаўтаматы, прэсформы, а таксама дамаўляліся пра кансультацыі, дапамогу ў дэмантажы і практыку нашых людзей на іхнай тульскай фабрыцы. Калега з-пад Тулы аддаваў гэты цэх з адной умовай: мы мусілі ўзяць на сябе, разам з машынамі, імпартам і сыравінай, *цэлы савецкі плян*.

### II

Усе машыны былі спраўныя, і адрабілі не васямнаццаць гадоў, як па дакумэнтах, а... пяць з паловай. Бо працавалі на іх не па васямнаццаць зьменаў на тыдзень, а толькі *пяць*: тады пад Тулай папросту бракавала работнікаў.

Словам, за лёгкія грошы я купляў добры цэх чалавек гэтак на 80—90 (што для Горадні ўжо тады было важна, бо людзі ў нас былі... "*лішнія*"), манаполь на рынку СССР з тым абутковым крэмам і магчымасьць спакойна прадукаваць яшчэ што-небудзь больш дарагое і дэфіцытнае. Тады любы тавар быў у дэфіцыце, адных грошай хапала. Ну, ня ўсім, але шмат каму. Чэргі стаялі кілямэтрамі, склады зьзялі пусткамі...

Нічога я не разумеў. Навошта гэты туляк, старэйшы і разумнейшы за мяне, гэта робіць?!

### III

І ён мяне не разумеў! І толькі падпісаўшы ўсе папярэднія паперкі, толькі сеўшы за дэфіцытныя тады каву з каньяком у чаканьні аўтамабіля, які меў завезьці мяне да электрычкі Тула—Масква пад самыя колы, галоўны тульскі інжынэр перапытаў мяне яшчэ раз. "Слухайце, нашто вы гэта купляеце?! Каму гэта трэба?! Бо вы ж бераце на сваю шыю *плян*...".

Слова *плян* было страшнае слова. Бо за трыста штук чагосьці прададзенага ты атрымліваў роўна столькі, як за дзевяцьсот. Таму ад работы бегалі, як чорт ад папабацюшкі! Не працавалі, а "восем гадзін" адбывалі.

Я адказаў туляку, што мой шэф Барыс Гендэльман з тым плянам неяк разьбярэцца, што такія машыны нідзе ня купіш, што мне сорамна ехаць назад з пустымі рукамі і што майму Гендэльману вечна хочацца нешта *рабіць* на рабоце. А ня ціха драмаць ці ўдаваць крыкуна-прыдурка.

Барыс Мацьвеевіч Гендэльман, карэнны барысавец, быў постацьцю ўнікальнай. Быў — са скрухай пішу. Бо пажыў ён па-беларуску, ледзь да шасьцідзесяці дацягнуў. Першае сваё дырэктарства ён прыняў у дваццаць шэсьць (!) гадоў, і яго разоў дванаццаць выкідалі з дырэктарскай і кіруючай (па-цяперашняму мэнэджэрскай) службы... і гэтулькі ж разоў ставілі ізноў! Бо *умеў рабіць, таму не хацеў служыць*. На прыкладзе Гендэльмана я ўпершыню ўбачыў, як аднаго і таго ж чалавека *ненавідзяць* што пралетарыі, што бюракраты. Бо безь яго абысьціся ня могуць. Бо тупыя. "На фабрыцы, — казаў ён, — мае быць адзін паказьнік: *зыск*..." А ў савета ў былі плян, працаўладкаваньне, сацыяльная справядлівасьць. Я не разумею, за што просты народ так узьненавідзеў сакратароў КПСС пад канец 80-х мінулага стагодзьдзя. Бо тыя сакратары распусьцілі пралетарыяў, як цыганскую пугу. А палетарыі не маглі сакратарам сьмешныя "сталы заказаў" даравацць.




АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

### IV

...Але і я спытаў таго туляка! Добра, кажу, мы вось ненармальныя і купляем. Але ж вы *прадаяце*. Манапольны цэх на пáру тысяч кілямэтраў, забясьпечаны машынамі, купляй і продажам... Навошта?!

Туляк цяжка ўздыхнуў і сказаў, што за праўду плаціць праўдай.

— Паглядзіце ў акно, — папрасіў ён. Там была недабудовіна з цэглы ў савецкім стылі, закінутая самае малое гадоў шэсьць-сем таму. На другім паверсе і ў вокнах расьлі бярозкі.

— Тут меў стаяць новы цэх па вытворчасьці пральных парашкоў, — сказаў галоўны. — І вось цяпер на мяне пасыпалася імпартовае абсталяваньне. Нямецкае, югаслаўскае... Пакуль лета — кладу на асфальт, накрываю поліэтыленам. Але ж будзе зіма...

Тут да мяне пачала даходзіць сутнасьць камбінацыі. "Прабіць" будаўнікоў і дабудаваць новы цэх не было як. Змарнаваць новае абсталяваньне, аплачанае валютай, — падсудная справа. Другога будынку пад цэх парашку *апроч цэху, дзе рабіўся крэм для абутку*, проста не было. Туляк меў бедны выбар: альбо выкінуць на сьнег цэх для крэму і запіхнуць на яго месца цэх для парашку (і атрымаць строгую вымову!), альбо зграіць машыны пад парашок, завіліць "плян" ды яшчэ даводзіць Маскве ідыятызм і гультайства мясцовых будаўнікоў, павязаных на "левых" дачах зь мясцовым абласным камітэтам КПСС... Туляк выбраў строгую вымову, а ня суд і турму, а тут яму падвярнуўся я са сваім Гендэльманам і тады яшчэ маладой інжынэрскай прагай "сапраўднай работы"...

— Вы сягоньня зайшлі ў самы час, — сказаў туляк і ўзяўся за каньяк. — Бо за гадзіну перад тым мне пазваніў Рыжкоў і папрасіў, каб той парашок для мыцьця ўсё ж такі быў... Цаной былое чаго! Бо ў нас цяпер, кажа, кругом цяжка, і наўрад ці я вам дапамагу...

— Гэта каторы Рыжкоў? — спытаў я. — Прэм'ер-міністар Савецкага Саюзу? Каторы Мікалай Іванавіч?!

— Той самы, — сказаў галоўны.

Далей мы сядзелі па-ангельску. За каньяком з кавай. Пакуль нарэшце не зьявіўся шафёр, што меў завезьці мяне ў Тулу. Бо — гаварыць далей было страшна. *Наш стары сьвет сыпаўся.* Кіраўнік ядзернай дзяржавы, якую ненавідзеў і перад якой калаціўся цэлы сьвет, быў *бездапаможны перад правінцыйнай бюракратыяй, местачковым балотам, сярмяжнымі выскачкамі* і прасіў-маліў правінцыйнага інжынэра зрабіць хоць тое, што можна на месцы. Бо *цэнтар* ужо не дае рады.

Хутка-хутка, хутчэй, чым выглядала, прыйшоў 1991 год. "*И развалили такую страну...*" Прычым зрабілі гэта не нацыяналісты, бо яны і так някепска жылі, да развалу не рыхтаваліся, а што такое свабода, паняцьця ня мелі. Хоць бы тых Дудаева з Гамсахурдзія ўзяць... Разваліла Савецкі Саюз падрослая местачковая мафія, а яшчэ дакладней, яе маладзейшая *аграрна-гаспадарчая* частка. О, іх цяпер Пуцін у Расеі карчуе — то Гусінскага, то Аксёненку... А ня так проста! Адным ломам лесу ня скруціш...

Забі мяне гром, аднаго не разумею! Тое самае ламачча і ненажэрства, якое СССР разваліла, цяпер зьбіраецца яго "аднавіць"... Галаву дурацць — сабе і людзям.

# Дэмакраты наступаюць

**17-ы зьезд Саюзу беларускіх мастакоў прайшоў надзвычай спакойна. У зьезьдзе бралі ўдзел прыкладна 370 чалавек. Квота суполкі "Пагоня" складала 26 месцаў.**

Галоўным вынікам зьезду стала абраньне новага старшыні. За пасаду змагаліся шэсьць чалавек. Манумэнталіст, кансэрватар па сваіх палітычных поглядах Георгі Жарын набраў 20 галасоў, былы старшыня, скульптар, цэнтрыст, на якога лягла адказнасьць за разбурэньне будынку на Дзімітрава, 3, Генадзь Буралкін — 52, "пагоневец" Аляксей Марачкін — 56, былы захавальнік мастацкага фонду Мікалай Паграноўскі — 42, пэйзажыст і прыхільнік цяперашняга палітычнага курсу беларускіх уладаў Георгі Лойка — 59, нацыяналіст і былы намесьнік старшыні БСМ Уладзімер Басалыга сабраў 98 галасоў.

У другім туры Басалыга набраў 183 галасы, а Георгі Лойка — 131. У другім туры за Басалыгу галасавалі тыя, хто галасаваў у першым туры за Марачкіна і Паграноўскага. Лойку адышлі галасы Буралкіна і Жарына. Дарэчы, прыёмная дачка Басалыгі — нявестка Марачкіна. Такім чынам, старшынём саюзу быў абраны Уладзімер Басалыга, нібы кампрамісная фігура паміж "зацятым" Марачкіным і "праўладным" Лойкам.

Басалыга — случчак. Яшчэ ў 1977 г. ён распачаў працу над тэмай "Помнікі дойлідзтва Беларусі" — маляваў Мірскі ды Нясьвіскі замкі, Каложу, Сынкавіцкую царкву. Апроч таго, ён ілюстраваў Караткевічаву "Маю Іліяду", разам з братам Міхалам аздабляў альбом "Гравюры Францішка Скарыны".

А пры канцы зьезду мастакі вырашылі зьвярнуцца ў дзяржорганы з просьбай аднавіць практыку дзяржзаказаў, а таксама аднавіць у Міністэрстве культуры аддзел, які б кіраваў выяўленчым мастацтвам. Міністар Гуляка пасьміхнуўся.

**Эдвард Людовіч**




## 110 гадоў Станкевічу

**26 лістапада спаўняецца 110 гадоў з дня нараджэньня выдатнага вучонага й грамадзкага дзеяча, тэарэтыка й практыка нормаў беларускай літаратурнай мовы новага часу Яна Станкевіча (1891—1976).** У студзені 2002 г. мае выйсьці збор Станкевічавых твораў — двухтомнік мовазнаўчых працаў з гісторыі, фанэтыкі, артаэпіі, графікі, артаграфіі, словаўтварэньня, граматыкі, лексыкалёгіі, фразэалёгіі, анамастыкі, дыялекталёгіі й культуры беларускай мовы. Прадмовы да двухтомніка напісалі Юрась Бушлякоў і Валер Булгакаў. Упершыню лінгвістычная спадчына Яна Станкевіча сабраная разам — для кожнага, хто хоча спазнаваць нашую мову.

**Мовазнаўца**

**На здымку: Ян Станкевіч у 1919 годзе. З архіву У.Ляхоўскага.**

жывая гісторыя

Ліст у рэдакцыю

# Празь Беларусь да Бога

**Выхаваны ў атэістычнай сям'і, я і думаць ня мог, што стану глыбока рэлігійным чалавекам, католікам. Мае веды пра Бога абмяжоўваліся расказамі савецкіх настаўнікаў, што "Бога няма", што "касманаўты лёталі і яго там ня бачылі" і што "вера ў Бога — гэта пераэжытак мінулага".**

Нашпігаваны савецкай прапагандай, я тое самае даводзіў сваёй бабулі, Вользе Савіцкай (хай зямля ёй будзе пухам), да якой прыяжджаў на лета. Яна не згаджалася, і мы доўга спрачаліся. У адсутнасьці Бога я яе не пераканаў, і гэта не бяда. Але я адчуваю вінаватасьць, што не давёў ёй шарападобнасьці зямлі і таго, што Зямля круціцца вакол Сонца. Так яна і памерла, думаючы, што недзе ёсьць край сьвету, а Сонца ўначы перабягае на ўсход, каб раніцай узьняцца над хатай. Бабуля гарой стаяла за Бога, апантана даказвала, што ён ёсьць, і нават, патаемна пазычыўшы Біблію, давала яе мне чытаць. Некалькі разоў на год наведвала праваслаўную царкву ў Менску (ад вёскі Дзяхань, дзе яна жыла, да сталіцы было прыблізна 35 км). Заўсёды яна бывала ў царкве на Спаса. Прывозіла сьвянцоны яблык і прымушала яго есьці. Яблык я зьядаў зь нейкім хваляваньнем і чаканьнем цуду, дарма што ў Бога ня верыў. На ноч бабуля шаптала "Ойча наш", распавядала пра сваіх бацькоў, дзядоў: як тыя шчыра верылі ў Бога, маліліся, шанавалі Матку Боску, хадзілі ў царкву, але галоўны ў іх быў Папа Рымскі.

Праляцела дзяцінства, юнацтва. Пры канцы 80-х разам з савецкай сыстэмай ляснула і прапаганда. Я пачаў цікавіцца гісторыяй Беларусі, адnавіў веды па беларускай мове, пачалі зьмяняцца мае перакананьні. Адно адкрыцьцё за другім паступова рабіла мяне сапраўдным Беларусам. Ужо тады я цьвёрда ўсьведамляў, што разам з адраджэньнем Беларусі павінна адрадзіцца беларуская царква, беларуская па духу.

У авангардзе адраджэньня быў айцец Ян Матусевіч. Упершыню я пабачыў яго на ўстаноўчай канфэрэнцыі Згуртаваньня беларусаў сьвету, куды прыехаў прадстаўніком ад Казахстану. Яго прамову на канфэрэнцыі я выслухаў зь вялікай цікавасьцю і цалкам быў згодны. Ён гаварыў пра неабходнасьць адраджэньня беларускага Касьцёлу, пра духоўную еднасьць усіх беларусаў, якой цяпер так не стае. Яго прамова запала мне ў душу, бо адпавядала маім настроям. Сьветлая яму памяць.

Некалькі гадоў, пражытых у Казахстане, дзе не было хрысьціянскіх храмаў, не маглі пашырыць маю веру і тым больш навярнуць да Бога. Але нейкае зерне веры ўва мне ўжо ўзрастала і чакала свайго моманту, каб вырвацца на сьвет.

І такі момант прыйшоў. Пасьля пераезду ў Беларусь я апынуўся ў Гарадзенскай вобласьці. 31 сьнежня 1992 г. наша вайсковая часьць, як і ўсё беларускае войска, пад бел-чырвона-белым сьцягам прымала прысягу народу незалежнай Беларусі. На ўрачыстасьць былі запрошаныя прадстаўнікі ўлады, мясцовыя сьвятары, у тым ліку і шчучынскі ксёндз Казімір Войцек. Уразіла тое, што толькі айцец Казімір выступаў па-беларуску: навучаў вайскоўцаў любіць Беларусь, бараніць яе ад ворагаў, быць патрыётам. Ужо пасьля прысягі за сьвяточным сталом я бліжэй пазнаёміўся са сьвятаром. Айцец Казімір зьдзівіў мяне сваім веданьнем сучасных праблемаў Беларусі, веданьнем гісторыі і рэлігійных пытаньняў. Каталіцкі сьвятар, у адрозьненьне ад праваслаўнага (той куляў адну чарку за другой), нават не дакрануўся да гарэлкі.




АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

Увасабленьнем касьцёлу і каталіцтва наагул стаў для мяне вобраз інтэлігентнага, культурнага, пісьменнага ксяндза.

Пасьля разам са старэйшым сынам пачаў наведваць капліцу ў Барташах. Тут атрымаў першыя ўрокі рэлігіі, прачытаў першыя малітвы, зрабіў першыя крокі да Бога. І дапамог у гэтым айцец Казімір. Яго драўляны крыж, падораны вайсковай часьці, і цяпер вісіць у нашай кватэры як напамін аб пераэжытым.

Ішоў час. Настаў 1995 год. Беларусам плюнулі ў душу. Праз рэфэрэндум былі растаптаны нацыянальныя сымбалі і беларуская мова.

Смутак, боль, роспач, апатыя ахапілі не аднаго мяне. Хто суцешыць? Дзе знайсьці паратунак ад злобы? Каго прасіць пра абарону? І нейкая нябачная сіла, якая кіруе лёсам людзей, прывяла мяне ў касьцёл Сьвятога Язэпа. Айцец Яраслаў Хыбза ўсё цудоўна зразумеў. Чалавек надзвычайнай дабрыні, надзвычай харызматычны стаў маім духоўным настаўнікам. Ён суцешыў і даў рады, падтрымаў і навучыў. Але галоўнае — даў Веру ў тое, што Беларусь толькі пачынаецца, а пачынацца яна павінна ад Бога.

На курсах, якія ладзіліся ў касьцёле, я ўбачыў новую маладую Беларусь. Дзясяткі хлопцаў і дзяўчат з усёй краіны закладалі духоўны фундамэнт новай Беларусі. Падчас імшы моладзь несла Пану Богу ахвяру: карту Беларусі і наш сьцяжок. Гэта было сымбалічна — Беларусь для Хрыста. На ахвяру прыносіцца самае дарагое. Прыносіцца дзеля таго, каб уваскрэснуць. А калі загучаў гімн "Магутны Божа" і маладыя галасы запоўнілі касьцёл, я стаяў, як заварожаны, паклаўшы руку на сэрца. З вачэй у мяне цяклі сьлёзы. Тады я ўсьвядоміў канчаткова: Беларусь там, дзе Бог.

**І.Супаненка, Ворша**



Дзе варта быць

## Ялінкі і цацкі

**Час ужо пачынаць рыхтавацца да сьвяткаваньня Калядаў і Новага году.** У буйных крамах Менску працуюць навагоднія сэкцыі. Аматары штучных елак могуць набыць там дрэўцы розных памераў: паўмэтровыя каштуюць 12 тыс., елкі ў два з паловай мэтры — да 217 тыс. Штучная хвоя абыдзецца крыху даражэй: самая вялікая і прыгожая каштуе 300 тыс. рублёў. Цэны на жывыя елкі пакуль невядомыя. У крамах можна набыць і разнастайныя елачныя ўпрыгожаньні: самы танны дожджык каштуе 281 руб., самыя дарагія гірлянды - 7 тысячаў, цацку беларускай вытворчасьці можна купіць за 400 рублёў, набор замежных - за 4 тысячы. Каб ня так шкада было аддаваць грошы, ідзіце па цацкі ў ЦУМ. Там на першым паверсе стаіць двухмэтровы Сьвяты Мікалай, які танчыць і сьпявае па-ангельску навагоднія песенькі. Абяцаюць, што бліжэй да сьвятаў ён засьпявае і па-беларуску.

## Каб не хварэць на грып

**Набліжаецца зіма, а разам зь ёй — штогадовая эпідэмія грыпу. Каб пазьбегнуць хваробы, можна зрабіць супрацьгрыпозную прышчэпку.** Калі вы чалавек сталага веку, маеце хранічныя захворваньні або працуеце настаўнікам ці доктарам, прышчэпку вам зробяць за дзяржаўны кошт, варта толькі зьвярнуцца ў сваю паліклініку. Для ўсіх астатніх прышчэпка каштуе 11 тысячаў у недзяржаўных мэдыцынскіх установах. (Дзяржаўныя пакуль толькі думаюць адкрываць платныя кабінэты.) Не адцягвайце: для выпрацоўкі імунітэту пасьля прышчэпкі мусіць прайсьці найменш два тыдні, а першая хваля грыпу можа пачацца зь першай жа адлігай.

## Спытайцеся ў "Крамы"



МАКСІМ ПРУПАС

Варашкевіч

**У суботу 1 сьнежня з 15-й да 16-й *BMA-group* ладзіць простую тэлефонную лінію з музыкамі гурту "Крама", што 12 сьнежня будуць прэзэнтаваць у ДК МТЗ свой новы альбом "Хавайся ў бульбу!".** Задаваць свае пытаньні можна на т.: 220-98-04 або праз пэйджэр: 289-12-12 (аб.6614). Аўтар найлепшага пытаньня атрымае бясплатнае запрашэньне на прэзэнтацыю.

## Бясплатны Нэт у Магілёве

**У Магілёўскай абласной бібліятэцы адкрыўся Інтэрнэт-цэнтар — амбасада ЗША перадала бібліятэцы восем кампутараў.** Цяпер кожны ахвотны можа бясплатна сядзець у Інтэрнэце паўтары гадзіны ў тыдзень. Праўда, калі вы хочаце паблукаць па Сеціве яшчэ сёлета, трэба хутчэй бегчы запісвацца: месцы разьмеркаваныя ўжо да паловы сьнежня. А для тых, хто яшчэ ня ведае, як абыходзіцца з кампутарам, пры цэнтры адкрыліся бясплатныя курсы па карыстаньні ПК і Інтэрнэтам.

## Юбілей Захарэвіч

**У сераду, 28 лістапада, у Купалаўскім будуць сьвяткаваць юбілей Марыі Захарэвіч.** Больш за сорак гадоў яна працуе на сцэне, ствараючы запамінальныя жаночыя вобразы (сярод найлепшых роляў - маці Мікіты Зноска ў "Тутэйшых"), чытае творы беларускіх пісьменьнікаў на радыё, здымаецца ў кіно. Адно дзіўна, што ў гонар Захарэвіч будуць граць "Лес" Астроўскага. Пачатак а 19-й.

## Рэклямная паўза



**Ноччу з 30 лістапада на 1 сьнежня ў кінатэатры "Кастрычнік" адбудзецца "Ноч пажыральнікаў рэклямы"** — дэманстрацыя найлепшых рэклямных ролікаў сьвету. Яны ўзятыя з калекцыі француза Жана-Мары Бурсыко. Беларускія тэлегледачы, пэўна, памятаюць ранейшыя ролікі зь ягонае калекцыі: котку, якая даводзіла важнасьць вывучэньня розных моваў, або джазавыя сьпевы жывёлаў. А пасьля шматгадзіннага паказу арганізатары заплянавалі фэерычнае шоў і дыскатэку. Пачатак а 23-й.

## Каменная казка

**З 29 лістапада да 2 сьнежня ў галоўным корпусе БДУ будзе працаваць міжнародная мінэралягічная выстава, прысьвечаная 80-годзьдзю ўнівэрсытэту.** Экспануюцца ўзоры мінэралаў і горных пародаў, ювэлірныя ўпрыгожаньні і іншыя вырабы з камянёў і дрэва, каменярэзныя прыстасаваньні, навукова-папулярная літаратура. Упадабаныя рэчы можна будзе набыць. Выстава будзе працаваць з 11-й да 20-й.

## АнтыСНІД у "Тунэлі"

**Дзень барацьбы са СНІДам — 1 сьнежня — можна адзначыць у менскім клюбе "Тунэль"**, дзе а 18-й пачнецца акцыя "Музыкі сьвету супраць СНІДу", перанесеная туды з Парк-клюбу "Менск". У ролі музыкаў сьвету — менскія гурты "Уліс", "Цмокі", аршанскі *CORD*, а таксама каманда *Third Stone* з галяндзкага места Эльдховэн. Уваход па запрашальных. Наконт іх набыцьця можна даведацца праз т. 249-08-88 (Віталь) або дамовіцца непасрэдна на ўваходзе ў "Тунэль".

## Інтэрнэт-форум

**Дзяржаўны "Белтэлекам" налічыў 46 500 беларускіх карыстальнікаў Інтэрнэту і 3000 зарэгістраваных дамэнных імёнаў.** Арганізатары ж трэцяга Інтэрнэт-форуму "by2001" заяўляюць пра 150 000 беларускіх наведнікаў Сеціва. Трэці штогадовы беларускі інтэрнэт-форум пройдзе ў Менску 29 лістапада ў Міжнародным адукацыйным цэнтры (IBB) на праспэкце газэты "Правда".

**В.Г.**

# Сьвечка ўначы

Сёньня ў Курапатах віруе жыцьцё. Тут, дзе спачываюць тысячы й тысячы забітых, вуркочуць бульдозэры, баракаюцца міліцыя й абозьнікі. Ня тое было цягам апошніх дзесяці (дваццаці, сарака...) гадоў. Толькі зрэдку тут зьбіраліся мітынгі, правіліся службы, а потым ізноў наставала гаючая цішыня. Жыхары Зялёнага Лугу часам хадзілі тут на лыжах, пілі гарэлку ля вогнішча, выгульвалі сабак, гарлалі песьні, але часьцей за ўсё тут было ціха й бязьлюдна. Можна было прыйсьці сюды, узьняцца на пагорак, супакоіцца, падумаць. З-за дрэваў безупынна чуўся няпэўны гуд і шоргат. То былі гукі машынаў на нябачнай адсюль кальцавой дарозе, што ўспрымаліся проста містычна й вельмі скрушліва.

На гэтым участку дарогі я б паставіў знак абмежаваньня хуткасьці: напрыклад, 30 ці, можа, 20 км/г, каб кожны кіроўца задумаўся, што ён мінае.

Гэтае месца не трывае шуму, валтузьні. Тут мусіць быць невялікі помнік, крыжы, зэдлік — і ўсё. Ня трэба сюды прыводзіць школьныя экскурсіі. Кожны сам сядзе на 53-ці тралейбус і за паўгадзіны ад Нямігі даедзе да Курапатаў. А тут — здыме шапку і сам усё адчуе й зразумее.

Кампазытар Кім Цесакоў назваў сваю Чацьвертую сымфонію "Курапаты". У музыцы чутны палахлівы гоман людзкой грамады, гукі стрэлаў, плач і енкі чалавечых душаў. Як распавядае спадар Кім, яму ніяк не давалася пэўная частка гэтага твору. Тады ён аднойчы прыйшоў у Курапаты апоўначы, запаліў сьвечку, дастаў нотную паперу і пачаў занатоўваць тыя жальбы й стогны, што нібы гучалі ў цемры. У 1991 г. за гэтую сымфонію ён атрымаў дзяржпрэмію. Цікава, ці далі б яе зараз? Можа й не, але ці гэта галоўнае? Такія творы не абавязкова павінны ўзнагароджвацца дзяржаваю, яны — ад сэрца і для сэрца.

Сёньня я баюся ісьці ў Курапаты. Ці варта зьяўляцца там зараз? Хто й як мяне там сустрэне? Што ўбачым мы там заўтра? Невядома. Але калі ўжо зноў у Курапатах запануюць спакой і ціша?

**Віталь Стахіевіч**

## БЕЛАРУСЬ ПРАЗ 100 ГАДОЎ

# Дзяды ў Курапатах

У Курапатах, там, дзе сягоньня (у першым годзе XXI ст.) расчышчаюць над магіламі пакутнікаў Беларусі лес, каб правесьці там дарогу і ў такі спосаб зацерці сьляды генацыду, дакананага над беларускім народам імпэрска-камуністычным рэжымам у XX ст., нашчадкі ўзьнясуць хай сабе й сьціплую, але з высокай вежай і магутнымі званамі мураваную капліцу. Усё ўрочышча Курапаты будзе абведзенае па-мастацку выкананай прыгожай мэталёвай агароджай. Хвоі, якія вартаўнікі Курапатаў абаранілі ад бульдозэраў, стануць магутнымі, а між іх паўстануць тысячы, тысячы — цэлы лес Крыжоў.

Капліца будзе экумэнікальнай. На Дзяды із самае раніцы разазвоняцца магутныя званы. Сваім мядзяным голасам яны адтвораць роспачныя енкі, плач, праклёны й пагрозы помсты нявінных ахвяраў генацыду. Званы на Дзяды напамінаюць усім, што жыцьцё пасьля сьмерці ёсьць кансэквэнцыяй дачаснага, што справядлівы суд прыйдзе на ўсіх, і на злачынцаў.

Званы на Дзяды будуць клікаць жыхароў Менску, ваколіц, усяе Беларусі ў паломніцтва да сьвятога ўрочышча. У паломніцтва да Курапатаў зьяжджацца будуць усе, хто душой жывы.



Перад Крыжамі загарацца на Дзяды тысячы агеньчыкаў сьвечак.

У капліцы на працягу дня й вечара будуць адбывацца багаслужбы. Беларусы-ўніяты маліцца будуць па-беларуску, праваслаўныя — па-старабаўгарску, каталікі — па-беларуску й па-польску, пратэстанты будуць сьпяваць і навучаць жыхароў Беларусі па-беларуску, габрэі — па-габрэйску або па-беларуску. Усе яны будуць маліцца за пакутнікаў, за сябе й за Беларусь, каб такога злачыннага тэрору болей ніколі не паўтарылася.

А калі двох-трох, а асабліва, калі ўвесь народ у імя Божае зьбярэцца, Бог іхныя малітвы выслухае.

Каб так сталася, трэба сяньня на самым пачатку XXI стагодзьдзя вартаваць, абараняць сваім целам перад бульдозэрамі *Курапаты*.

**Раіса Жук-Грышкевіч**

**Кастусь Травень**

# ДАМІНАНТА

*апавяданьне*



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

Дастаткова трымаць сябе ўпэўнена, і асоба ўжо абароненая нябачнай сілай. Упэўненасьць сьведчыць аб нечым, што вымагае адэкватных адносінаў.

Была сьветлая, сонечная нядзельная раніца ў канцы жніўня. Ён стаяў у тралейбусе, каля сярэдняга выхаду — у файных чорных портках, у бліскучых модных пантофлях і адпрасаванай цёмна-блакітнай кашулі. Гэткі прысадзісты, ладны, зь сівізной, спакойны і ўпэўнены тутэйшы мужык. У наш нэрвовы, нестабільны час ён быў асяродкам надзейнасьці, і таму сталыя жанчыны, што разумеюць сапраўдныя каштоўнасьці жыцьця, прыпынялі на ім свой позірк.

Раніцай выходнага дня ў тралейбусе людзей было няшмат і адзінокая постаць зьвяртала на сябе ўвагу. Ён трымаў пад пахай стос патрыятычных газэт і, разгарнуўшы "Пагоню", уважліва чытаў.

Вось тут і пад'ехаў да яго каржакаваты загарэлы здаравячок гадоў пад пяцьдзясят. Ростам ён быў дзесьці пад 168 см, таму не дацягваў да тутэйшага.

— Ну, як там справы? — здаравячок кіўнуў галавой на газэты.

— Што вы маеце на ўвазе? — тутэйшы рэагаваў добразычліва.

— Пра што нацыяналісты пішуць?

— Пра ўсё, што хвалюе сьвядомых. Можаце зірнуць, калі вам цікава.

Тутэйшы ўсё яшчэ не зусім разумеў, што незнаёмцу ад яго трэба, і таму трымаўся ўважліва і ветліва. Ён працягнуў здаравячку газэту.

— *Я вскоре выхожу. Вот чего им надо? Скажи. Вообще, давай говорить образно, естественным языком.*

— Не зразумеў, пра што вы.

— *Слушай, ты же умный мужик. По тебе сразу видно*, — незнаёмец агледзеў тутэйшага з галавы да самых шыкоўных пантофляў.

— *Тюльку-то гнать не надо. У нас двуязычие. Так что имеем право.*

— Натуральна, — абарыген трымаўся па-ранейшаму спакойна і цывілізавана, дамінаваў на абмежаванай жыцьцёвай прасторы тралейбуса, што імчаў па вуліцы Багдановіча.

— *Кто как хочет, так и говорит. Тем более, я всё понимаю и, кроме того, ещё другими владею.*

— Разумець — адно, іншая справа — карыстацца. Хто карыстаецца, той удзельнічае, той сьвядомы, а іншыя — цемра.

Тутэйшы пачаў разумець здаравячка і пробным ходам памацаў ягоную базу дадзеных.

Мужык нэрвова торгнуўся, трымаючыся за мэталёвы стаяк, але працягваў наступ. Незнаёмца злавала ня столькі тое, штó гаварыў тутэйшы ў файных чорных портках, колькі ягоная спакойна-ўпэўненая, ветлівая манера трымацца, ягоная бездакорная мова. Тутэйшы дамінаваў, і не было аніякай магчымасьці яго прынізіць, паставіць на месца. Пасажыры абыякава слухалі, большасьць не разумела, што адбываецца, і таму таксама злавалася. Меншасьць, у асноўным мясцовыя мужыкі і колькі сталых жанчынаў, зь цікавасьцю прыслухоўвалася да таго, як у абмежаванай прасторы, на ўжо і яшчэ нэўтральнай жыцьцёвай тэрыторыі, працягвалася барацьба абарыгена і расейскамоўнага манкурта за дамінанту.

— *Моя дочка, кстати, выбрала русский. Права человека. Я так Виктору и сказал, Ивашкевичу.*

— Можна пашкадаваць вашага ўнука, яму прыйдзецца марнаваць жыцьцё, вызваляючы Каўказ.

— *I твоему тоже.*

— Ні ў якім разе, ён будзе сучасным эўрапейцам.

Чамусьці нетутэйшыя заўсёды пачынаюць нэрвавацца, калі зь першых словаў гутарка ідзе на мове абарыгенаў.

— *Заткнись, хватит...* — здаравячок ужо не хаваў злосьці, ён таптаўся перад дзьвярыма тралейбуса, але ўсё ніяк ня мог сысьці, згубіўшы чароўнае пачуцьцё дамінанты.

— *Будешь вякать и дальше, козлик, получишь неприятности*, — ён спрабаваў вярнуць дамінанту сілавым узьдзеяньнем.

Тутэйшы выпраменьваў непахісную ўпэўненасьць і спакой. Ён уважліва агледзеў апанэнта з галавы да ног і з прыхаванай хітрынкай сказаў:

— Хачу папярэдзіць вас, шаноўны, што ў свой час на вайсковай службе ў марской пяхоце я тры гады вучыўся рукапашнага бою.

Савок, нэрвова падскочыўшы на месцы, рынуўся ў дзьверы — ён і так ужо праехаў свой прыпынак. Абарыген, якога савок так хацеў апусьціць ніжэй за сябе, ветліва памахаў рукой неўраўнаважанаму апанэнту. Той стаяў на прыпынку і ледзь стрымліваўся ад таго, каб кінуцца назад у тралейбус ды моцна і жорстка разабрацца з абарыгенам. Але, як нябачныя путы, трымала яго ўпэўненасьць тутэйшага, і савок зноў і зноў укручваў далонь сабе ў скроню і вывяргаў рык разьюшанага шавініста.

— Казёл гр-р-р.., бээнэфавец гр-р-р.., шызік гр-р-р-р, мудак гр-р-р... — тралейбус зачыніў дзьверы і памчаў далей у напрамку Нямігі.

— Зусім слабак, а так хацеў паказаць сябе крутым, — крыху зьдзіўлена сказаў сабе тутэйшы.

Ніколі ён ня быў марскім пехацінцам і не вучыўся забіваць і калечыць людзей, бо ў свой час служыў сувязістам...

Ён сышоў на прыпынку "Вуліца Веры Харужай" і пайшоў да пераходу — упэўнены, ветлівы, прыгожы, у файных чорных портках і модных бліскучых пантофлях, крыху нахіліўшы долу магутную сівую галаву.

І быў у Менску сонечны жнівеньскі дзень. Дзе-нідзе пасмы жоўтага лісьця ў зялёных кронах ліпаў сьведчылі, што скора надыдзе восень, што яшчэ адзін год прайшоў, што шчасьце было так блізка... І прыгожыя менскія жанчыны прыпынялі свой позірк на памяркоўным мужчыну, што нетаропка крочыў па вуліцы ў напрамку Камароўкі, несучы з сабою адратаваную дамінанту жыцьця.

**Казкі жыцьця**

# Крывая лінія, простая лінія

III

У канцы 70-х па вуліцы Кульман, непадалёк ад круглай будыніны крытага Камароўскага рынку, вырас блакітна-зялёны зьмеепадобны жылы дом. (Пазьней у народзе яго празвалі "даляр".)

Уздоўж вуліцы Веры Харужай, гэтаксама паблізу Камароўкі, адзін за другім паступова зьвіліся 16-павярховыя круглыя жылыя дамы вежавага тыпу. У народзе іх хутка сталі называць "кукурузнымі качанамі", "кукурузамі" — за паўкруглыя бальконы-зернейкі кватэраў, нанізаных на вэртыкальную вось камунікацыяў.

Наступным, у канцы 90-х, паўстаў шыкоўным караблём "Паркінг", зь вітым уездам на шмат'ярусную платную стаянку аўтамабіляў. Крывыя рысы гэтай бакавой "спружынкі" будынку засьведчылі: "крывіцкі рух" у архітэктуры раёну — у самай сіле! Гэта, безумоўна, жарт...

І вось доўгачаканая сёлетняя рэканструкцыя тэрыторыі, прылеглай непасрэдна да Камароўкі, а таксама самога сэзоннага рынку пад адкрытым небам. Зьявіліся круглыя фантаны ў некалькі дыскаў-ярусаў, пляцавыя сьвяцільні зь белымі шарамі ліхтароў. Сьвяцільні ўпрыгожаныя круглымі вянкамі з жывых суворых хваёвых галінаў — лягічны акцэнт і дэкаратыўнае завяршэньне адроджанай ідэі паўночна-ўсходняй Крыўі, старадаўняй краіны магутных васількаў-асілкаў з валасамі белымі, як дым кастроў... І нават пластакутная плітка пад нагамі выкладзеная на камароўскім пляцы вялікімі запаветнымі канцэнтрычнымі акружынамі!



...А можа, усё-ткі крывыя лініі ў сталічнай архітэктуры — не жаночыя, а мужчынскія? Супэрмужчынскія? Вось жа і будынак Міністэрства абароны стаіць у нас на гары, каля прыгожага крывога выгіну ракі Сьвіслач, з круглаверхай бэтоннай альтанкаю ля вады і двума вялікімі шарамі на пастамэнтах на другім беразе. Ля прычалу крутабокіх лодак — для прагулак і мэдытацыі.

**Людка Сільнова**

# "Наша Ніва" 90 гадоў таму

Наша Ніва — гэта люстра душы, думак і патрэб Беларусі.
Цана з падпіскай і перасылкай дахаты на 1 год каштуе 2 р. 50 кап.

**З усіх старон**

**Барыспаль.** Сялянскі сход пастанавіў закрыць адну манапольку, шынок і ўсе піўныя.

**Рыбінск.** У Рыбінску забаранілі канцэрт на карысьць пацярпелых ад голаду, аказалася, што голад не зарэгістраваны.

**1(14) снежня 1911 г., № 45**

